*Мікола Мятліцкі*

# *Чаканне сонца*

Вершы



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994

## ВЁСКА БАБЧЫН

Тут вырайна юнацтва лямантуе,
Ды дзед сівенькі, едучы ў раён,
Ў аўтобусе з дзяўчатак пажартуе:
«Які вам бог даў гэтакі разгон?»

На жарт яго адкажуць вельмі строга
Смуглявыя палескія жанкі,
Што й сёння не заворана дарога,
Якой у вёску ходзяць прымакі.

За жартам лёс і час мінулы бачан.
Успомню жарт, і зноў перада мной —
Лясная вёска з горкай назвай Бабчын,
Знявечаная лютаю вайной.

Жанчын надзея: можа, прыйдзе з войска...
Ды многім гора даўняе баліць.
Гісторыя, ты назву ціхай вёскі
Змагла суровым сэнсам надзяліць.

Не выдумка, што правілі жанчыны.
На іх руках смылелі мазалі:
Цягнулі плуг — узорвалі лагчыну,
З сявенькамі ступалі па раллі.

Апоўначы збіралі ў лесе голле
І да зямлянак неслі на плячах.

Яшчэ й цяпер, бывае, блiснеш, доля,
Слязінаю ў зажураных вачах.

Жаночымі рукамі ты касіла
І драла мох для новых сцен з балот,
На іх плячах да брацкае магілы
На стрэчу з бацькам несла ты сірот.

**ПОЛЕ**

Твой колас кожны пахне старажытна,
А я кажу і сэрцу не маню:
Зямля такое ўскаласіла жыта
За ўсе свае патравы ўпершыню.

Яшчэ не ўсё заворана, забыта,
Хоць я даўно не знаюся з бядой.
Ты колькі, поле, мроіла пра жыта
Ды марна зарастала лебядой.

Я да цябе прыйшоў тваім аратым
І ім хачу на схіле год пражыць.
Мне не забыць: мой дзед-сявец салдатам
Пад дзёрнам недзе страчана ляжыць.

Там вочы размінуліся з блакітам,
Каб васількі глядзелі ўслед вачмі.
Калі сыду, высокім, поле, жытам
Пад небам зорнай вечнасці шумі.

## ХВОІ

### I

Іх вяршаліны ў сіняве.
Спускай, пілуй на дошкі!
Табе патрэбна толькі дзве
І трэцяй трошкі.
Усяк было — малы, стары
З пакутай і журбою —
Па звычцы даўняй у бары
Мы пазычалі хвою.
Падсочкай зрэзана кара:
Куды ні глянь — бруіцца
Праз раны белыя з нутра
Духмяная жывіца.
І карані — у глыбіні,
І ў целе столькі сілы!
Але ў замшэлай цішыні
Заскрыгаталі пілы.

### II

Вясковы дом прапах жывіцай —
У сценах спадчына лясоў,
Нібы гудзе пад навальніцай
Туга забытых галасоў.
Сасновы дом. Мая калыска,
Пад столь падвешаная...
Не!
Яна плыла між абеліскаў
У здратаванай старане.
Са сцежкі збочу баравое,
Прапахлай волкасцю грыбной,—
Высока страявыя хвоі
Шумяць і стогнуць нада мной.

Гляджу на вечныя хваіны.
Сабе бяссмерця не малю,
Бо хтосьці лёг без дамавіны
Учора ў гэтую зямлю.

## ПАЛАНЕЗ РАЗВІТАННЯ

Дажджы... Туманнае Залессе.
Цягнік імчаў праз мокры лес.
І ў жураўліным паднябессі
Гучаў высока паланез.

Яснела восені світанне
Пад дзіўнай музыкі святло.
Яго з Радзімай развітанне
Ўва мне вяртаннем ажыло.

Пад небам восені, магчыма,
Упершыню пад ветру спеў,
Я пазнаваў цябе, Радзіма,
І так глыбока разумеў.

Паўстанкаў сцішаныя хаты
Гарнуў да сэрца мой пагляд,
І курганы, дзе спяць салдаты,
І вочы сінія салдат.

Яны, здавалася, па жыту
Ішлі, палёгшыя даўно.
З быцця глядзелі і з нябыту
Ў маё дарожнае акно.

Ад ціхай станцыі Залессе
Па мокрай ранішняй зямлі
Яны за мною на Палессе
У гуках музыкі ішлі.

## АРЭЛІ

Старэюць вязы дзедавы ля хаты,
Пасаджаныя ў даўнія гады.
Не прычакаўшы ўнукаў, барадаты
Падаўся дзед на ціхія клады.

Ля вязаў басаножыць шматгалоссе.
Пачэплены арэлі на суках.
Шчаслівы дзед — так сэрцу падалося —
Люляе іх, унукаў, на руках.

* * *

Мне ў сэрца грукае штодня,
Як падарожны ў дзверы дома,
Мая падобнасць і радня —
Салдат з Айчыннай
Невядомы.
І просіць ціха:
«Адчыні.
Я на марозе. Дай пагрэцца...»
І адчыняю. І ў агні
Усё часцей палае сэрца.
Бязвусы дзед — ён на вайне.
І разумею: ля калыскі
У яго наступніку, ўва мне,
Падобнасці шукалі рыскі.
Я рос. За днямі беглі дні
Насустрач вераснью і маю...
Ён патрабуе:
«Адчыні!»
І адчыняю...
Адчыняю.

## АКСІННЯ

Звыкла яе — Аксінняй —
На вуліцы вёскі звалі.
Стылай густою сінню
Вочы старой адлівалі.
Вілася штодзень увішною
Ластаўкай ля жытла.
Двойчы ў жыцці ўдавою
Аксіння была.
Хавала свайго Лаўрэя —
Плакала, як дзіцё.
Ведала: не сагрэе
На скразняках жыццё.
Трызніла ноч: — Лаўрэйка...
Ды не вярнуўся ён.
Раніца, як зладзейка,
Голас свякрухі:
— Вон!..
Вочы густою сінню
Ззялі ў краплінах слёз.
Несла малых Аксіння —
Суджана гэтак,
Лёс...
Жала жыта, да ночы
Гнулася ў баразне.
Глянуў хлапец у вочы:
— Іншых не трэба мне...
Слёзы глытала горка
Скрушная удава:
— Ой не цалуй, Рыгорка,
Кружыцца галава...
Цёплая хлопца світа
І халадок расы.
Ціха гушкала жыта
Спелыя каласы.

Толькі хапіла гора,
Клятага век,
Спаўна.
Аплакала і Рыгора —
Забрала яго вайна.
Зноў вочы густою сінню
Ззялі ў краплінах слёз.
Зноў цешыць сябе Аксіння:
— Суджана гэтак,
Лёс...
Ды на выгарах гора
Дзетак уберагла.
Іх у Аксінні шасцёра...
Шчаўе і прысак жытла...
Марыць пра долю позна,
Гора на цэлы свет...
Звала Аксінню позва
У сельсавет.
Да папялішча — дзіва! —
Везлі на зруб сасну.
Ты не дала,
Радзіма,
Вырасці палыну.
Зноў расцвіло блакітам
Неба па-над сялом.
Над каласістым жытам
Мірна галёкаў гром.
Толькі ў сцюдзёнай сіні
Не ахалодаў боль.
Позірк вачэй Аксінні
Не распагоднеў больш.
Вочы сінелі стынню,
Просячы: абагрэй...
...Доўга чакаў Аксінню
Там, на кладах, Лаўрэй.
Вёсны чакаў і леты,

Клікаў яе з сяла
Легчы ў пясок угрэты.
Толькі яна — не йшла.
Моцы прасіла ў Бога,
Каб перадужаць зло.
Клопатаў надта многа
Тут, на зямлі, было.
Дзетак адна гадавала,
Мала сасніла сноў.
Замуж дачок аддавала,
Пераженіла сыноў.
Потым унукаў люляла,
Ім не жадала бяды.
Тэпала, выпраўляла
Ў дальнія гарады.
Як адступіла сіла
(Старасць — нібы гара),
Стомлена папрасіла:
— Мне да свайго пара...

## СІНЯЯ БАЛАДА

Падае з рук дзіцячых
Каляровае шкельца.
Звычайнае і незвычайнае —
Пляшкі асколак.
— Людзі, вярніце цуд!
Бярозы — сінія-сінія,
Нябёсы — яшчэ сіней,
І сінія-сінія кружацца
Над сіняю грушай буслы.
Толькі ніхто не ўважыў
Гэтай бяды малога.

І па-над ёй, адчайнай,
Спешна мільгаюць лысіны,
Шапкі, капелюшы.
Грае святлом праменным
Рэшта асколкаў дробных,
І самыя горкія слёзы
У хлапчука на вачах.
— Людзі, вярніце цуд!
Хочацца бачыць малому:
Бярозы — сінія-сінія,
Нябёсы — яшчэ сіней,
І сінія-сінія кружацца
Над сіняю грушай буслы.
Толькі ніхто не ведае:
Гэта ў асколках дробных,
Светлае і наіўнае, сэрца ўладара
Самай дзівоснай планеты.
Што бачаць ягоныя вочы? —
Чырвона-чырвона грае
Агонь над даўжэзнай пуняй
І чорна-чорна садзіцца
На лес заінелы
дым.
І з вогненнай прорвы пякельнай,
Быццам чырвоныя макі,
Чырвоныя, страшныя твары
Цягнуцца да аблок.
— Людзі, што гэта? Што? —
Шэпчуць жахнута губы.
— Досыць... Ты ўжо дарослы
І зразумець павінен:
Гэта гарыць Хатынь.
Бела-бела ўзыходзіць
Грыб па-над белым горадам.
І горад, вялізны горад —
Фантаны, алеі, сцэны —

Пад шапкай яго растае.
І з белага попелу горада
Цягнуцца кволыя рукі,
І белы-белы жураўлік
Крыляе да самых зор.
— Людзі, што гэта? Што? —
Шэпчуць жахнута губы.
— Досыць...
Ты ўжо дарослы
І зразумець павінен:
Гэта яна, Хірасіма.
А хлопчык сабраў асколкі,
Малы, ён яшчэ не верыць,
Што назаўжды пакінуў
Тую планету,
                    дзе
Бярозы — сінія-сінія,
Нябёсы — яшчэ сіней
І сінія-сінія кружацца
Над сіняю грушай буслы.

## ВУЧЭННІ

Па сігналу чырвонай ракеты
Узлятай на сваім рубяжы.
Крояць цемру успышак прасветы,
Б'юць слупоў тэлеграфных крыжы.

Дым паўзе. Ён вільготны і горкі.
Смерць сляпуча глядзіць адусюль.
Быццам неба рассыпала зоркі
Па арбітах снарадаў і куль.

Ноч, як чорная пашча нябыту,
Б'е па слыху камандай: «У бой!..»
Нехта падае побач...
Забіты?
Блізкі хтось, не пазнаны табой.

...Ціха-ціха. Шарэе, світае.
Смольны дух пашчапанай сасны.
Не кажыце, вайна — халастая.
Мы вярнуліся з гэтай вайны.

* * *

На кароткім салдацкім прывале
Пад зялёнаю пахай бяроз
Мы лісты да каханых пісалі
Першы раз па-мужчынску ўсур'ёз.

Словы клаліся бегла і строга
Той, пазнанай салдатам, цаны.
З-за пляча пазірала трывога
За разгушканы шар наш зямны.

Неспакойна — мы ведалі — ў свеце.
Прэллю дыхала, лісцем з зямлі.
Блізка-блізка, прымроена, дзеці,
Нашы дзеці... пад небам былі.

Думцы скрушнай паспелі жахнуцца,
Хоць не тое пісалі мы, не.
Блізка-блізка... Маглі размінуцца
Мы на гэтай, магчымай, вайне.

## ДАРОГА ДА МАЦІ

Не чую тых, хто скардзіцца умее
На даўжыню самотную тваю,
Бо сам табе — у спёку і ў завею —
Зачаста дні і ночы аддаю.

Хай сотні вёрст, а мне і гэта — мала.
Там, на Палессі, часам давідна,
Сумуючы, мяне чакае мама,
На шыбах і на скронях сівізна.

Не чую тых, хто ўмее надта строга
Вагон судзіць за мулкасць, як за зло.
Я ведаю: за гэтую дарогу
На свеце карацейшай не было.

Спяшайце, каб начною тэлеграмай
Знянацку ў сэрца стукнуць не змагла
Найкарацейшая з дарог, дзе мама
Чакае нас, не гасячы святла.

## ГАННА З ПАЛЕССЯ

— Ты будзеш Ганнай...
І яе красу
Тварыў, самотны, з чырвані рабіны.
А ў небе клін сцінаўся жураўліны,
І золак піў сцюдзёную расу.
У парк сталічны нёс няспешным крокам
Малой радзімы дзіўнае святло.
Світальны час... І нешта ў ім было
Ад вечнасці, як россып зор, высокай.
— Ты будзеш Ганнай...

Хваляванне... Боль...
Здалося: крочыць па алеях Мележ.
А ёй — вякі.
Інакшай быць не ўмееш
Вялікая,
Без берагоў,
Любоў.

## ХВОІ НА АБРЫВЕ

Абрыў напорам хваль падмыты,
Яны, не верачы ў бяду,
Наніз з чысцюткага блакіту
Вясной куляліся ў ваду.

Калі ж рака адбушавала,
Адгаласіла па вірах,
То быццам іх і не бывала
На сыпкіх, вымытых жвірах.

Яснее цёмнае прадонне.
У трубы трубяць жураўлі...
Стаялі хвоі тут сягоння,
Здаецца, вечнымі былі.

## ЦУД

Ад ручаёў да першае лістоты
Паспешныя вясновыя сляды.
Май раснацветам выбеліць сады,
Напоўніць мёдам у калодах соты.

На полі пад будзільнік жаўрука
Прачнецца ў глебе прагнае карэнне.
Ёсць вечны цуд зямнога паўтарэння
Травінкі кожнай, кветкі, каласка.
І не паверыш, у каторы раз
Збудзіўшы гай світальнаю хадою,
Што гэты свет, пазнаны ўжо табою,—
Вядомага чагосьці пераказ.
І цягнешся да кволага лістка
Заўсёды ў незвычайным захапленні...
Ёсць вечны цуд зямнога нараджэння
Травінкі кожнай, кветкі, каласка.

* * *

Туманныя асеннія дажджы.
Дрыготная світання прахалода,
Рабінаў сіратлівыя чароды,
Надрэчны гай — пустэльны і чужы.

Стамлёны ўзмах вільготнага крыла
І цішыня, нібы ў глыбокім склепе.
Здаецца, больш ніколі не аслепіць
Агністы сноп духмянага святла.

Пагасла ўсё...
Трывожна на мяжы
Цяпла і сцюжы, смерці й нараджэння.
Ды падаюць, каб даць жыццё карэнню,
Лісты...
Лісты...
Туманныя дажджы...

## НАВАЛЬНІЦА НАД БОРАМ

Грымотам тут шырокае раздолле,
Па карані дрыжыць смалісты бор.
Ляціць у нетру ссечанае голле —
Пяру́наў грозна гахае тапор.

Савіным вокам бліскае крыніца,
Схаваная ў дрымотным гушчары.
Над соснамі драпежна навальніца
Раскінула маланак кіпцюры.

Зацятым стогнам бор пярэчыць здзеку,
Жывіцай лечыць драпіны-сляды.
І стогне бор, падобна чалавеку,
Што памірае, просячы вады.

* * *

У джунглях моў ёсць мова пачуцця,
На ўсёй зямлі дваім яна даецца.
То мова часу, памяці і сэрца,—
Святая мова нашага быцця.

Адкуль прыйшоў яе чароўны гук?
Упершыню гучыць ва мне маўчанне.
Пад белаю таполяю начамі
Я слодыч п'ю тваіх цнатлівых губ.

Сарвецца з іх чаканае мной слова
І нас дваіх прымусіць замаўчаць...
Не ведаў я, што можа так гучаць
На гэтай мове матчыная мова!

## ЗОРЫ І ЗЯМЛЯ

Райцэнтр... Дванаццаць гразкіх вёрст.
Сюды, ў рэдакцыю газеты,
Хлапчук-свавольнік вершы вёз,
Каб гучна выбіцца ў паэты.
Былі нябёсы ў жаўруках,
І, як вясна, гучала б звонка
У аднакласніцы ў руках
З ягоным прозвішчам старонка.
Хай самалюбства не грызе —
За ім пакрочыць за паўсвета.
Яшчэ патопчацца ў чарзе,
Аўтограф просячы ў паэта.
Ён дасць дастойны ёй адказ,
Ён так напіша гэтай Галі:
«А... Гэта Вы...
Кахаў я Вас.
Вы што ж паэта прамаргалі?»
Пачуццяў сонечны прыліў,
Тугой асветленыя ночы.
І ён, шчаслівы, уявіў
Яе заплаканыя вочы.
А слава? Продыху няма.
Яна паўсюд, на кожным кроку.
Яго настаўніца сама
Зайздросна хваліць на ўроку.
Яго здымае ля акна
З самой рэдакцыі фатограф.
Ды не спяшаецца яна
Прасіць у генія аўтограф.
З ім не страчаецца знарок.
У славы прысмак надта горкі —
Каб толькі чуць жаданы крок,
Аддаў бы ён усе пяцёркі.
І там, на вуліцы начной,

Усхваляваны, да світання
Ён прачытаў бы ёй адной
Радкі пра іхняе каханне.
Узяў юнак глыток вясны —
Прастор, наліты сінявою,
І водар ранішні, лясны,
Паляны з роснай сон-травою,
Дзе жураўлінае крыло
Лягло на сэрцы і на сцежкі...
Ва ўсім, ва ўсім было святло
Яе чаруючай усмешкі.
Яшчэ не сказана «люблю».
Калі міжзор'е пагукае,
Ён знаў, што сыдзе на Зямлю,
Бо па зямлі Яна блукае
І незвычайнай, і зямной,
Не ім прыдуманай — жывою.
І ён па вуліцы начной
Ступіў спалохана за ёю.
Забыўшы ўсе свае радкі,
Ён чуў, як кроў паліла скроні.
І сам пяшчотна, украдкі
Кранаў дзявочыя далоні.
А вось і дом... Знаёмы клён...
Яе гарачае дыханне.
Чаму ж тады марудзіць ён
Чытаць ёй вершы пра каханне?
Адны, адны на ўвесь сусвет
Яе усмешлівыя вочы...
Ды брамкі грук:
— Бывай, паэт.
Бывай навекі... Добрай ночы...

## НЯВЕСТЫ

Тым кавалерам ці былі вы рады?
Сустрэўшы хлопцаў з-за ракі
прамоклых,
Падлетак, я па іхняму загаду
Штовечар грукатаў у вашы вокны.

А за паслугу жменяю арэхаў
Мяне не раз яны азалацілі.
Душыліся ў дварах сабакі брэхам
І вёску ацішэлую будзілі.

Міргаў над вішнякамі ветах слепа.
Шырока ў морак расчыніўшы дзверы,
Выходзіла на ганак бабка Сцепа
І чысціла як трэба кавалераў.

Даўно спакойна спяць у вёсцы хаты
І дварнякі не душацца са злосці.
А вы цяпер мужоў сваіх чубатых
Да матак возіце, бывае, ў госці.

Святло гарыць, не гасне апаўночы,
Калі застолле шчодрае прамокне.
У нейкі міг на сэрцы заласкоча
Пастукаць, як тады, у вашы вокны.

## НОЧ

### І

Акно, расчыненае ў сусвет.
З нябачных галін
Зрываюцца яблыкі-зоркі
І падаюць.
Сад спакуснага раю.
У ім —
Двое нас
І ноч.
...Пакой.
Без п'янай гулянкі вясельнай,
Без звыкласці сцен,
Без дываноў і знаёмае мэблі.
Нас двое ў пакоі,
Нас двое ў цэлым сусвеце —
Садзе спакуснага раю.
Хочаш, стану Адамам
І ты, мая Ева,
Яблык наш зорны сарвеш?
Ноч...
Цэлы сусвет дыхае нашым
дыханнем,
Цэлы сусвет
зорна вітае над намі:
Наша быццё ў чорным бязмежжы
лунае.
І расступіліся сцены,
Час адступаецца —
Вечнасць.
...На астраўку
Рыжае поўні —
Рукі за рукі —
Кружыцца наша маленства,

Наша сустрэча
На міг
І назаўжды,
Цэлы сусвет!..
Зорны сусвет!..
Мы кахаем.
Чуеш? У наступе гэтай лавіны
Зрынуты сцены пакоя,
Зрынуты межы дзяржаў,
Зрынуты смерці і войны.
Толькі нас двое.
Двое... і цэлы сусвет.
Вусны цалую тваё —
Цэлы сусвет цалую.

II

Акно,
Расчыненае ў сусвет.
Фарбамі золка
Хмуры зямны прывід
Ціснецца у акно.
Пакой.
Сцены — важкія прэсы.
Ім спрасаваць вакол мяне
Шэрую звыкласць.
І чутно, як на вуліцы,
П'янае, разышлося
Вяселле тваё,
І адгалоскі песні —
Голас гэтай планеты —
Журацца адзінотай.
І рукі твае, любая,
Спрытна акно расфіранілі
Насустрач зары зямной
Пасля шлюбнай начы.

* * *

Пад клёнам дом... Сягоння ён — пусты.
Вяртаюся сцяжынкай запарошанай.
Тут некалі мяне чакала ты,
Смуглявая, адзіная, харошая.

На сініх ростанях бялюткі гай,
Бухматым шэранем укрыты, журыцца.
Даўно цябе другі чаруе край,
Даўно цябе другая водзіць вуліца.

Зіма. Зіма... А ў сэрцы крыгалом,
Нібыта крыгі, зносіць ён бяду маю.
«Дзівак, чаму спыніўся пад акном?» —
Дзед-вартаўнік з цікаўнасцю падумае.

Стары, прабач... Пайду, зблуджу ў гаях,
Пакіну ўсё, што памяццю адзначана.
Нашто дакор? Каханая мая
За выдмамі сівых сумётаў страчана.

## ГОРАД, АДЗІН НА ДВАІХ

Горад далёкі, за далеччу вёрст.
Горад зусім чужы.
Таксіст незнаёмы іх павёз
У міражы.

Век іх — крылаты,
дзіўны, як сны.
Вунь рэактыўны след.

Верацъ: аднойчы прыйдуць яны
Гэтак да іншых планет.

Хай не да іх тут усім, хто жыве.
Іхнія сэрцы — для ўсіх.
Зорная ноч
                    ім аддае
Горад,
           адзін на дваіх.

Горад таемны, горад начны.
Вуліца — Млечны Шлях.
Іншым хай сняцца сытныя сны
У нумарах.

Вусны — да вуснаў,
                                   рука — да рукі.
Зорнае ночы крыло
Пала ў рухомае люстра ракі.
Толькі б каханне жыло!..

Хай не да іх тут усім, хто жыве.
Іхнія сэрцы — для ўсіх.
Зорная ноч
                    ім аддае
Горад,
           адзін на дваіх.

Коламі грукне на золку вагон,
Даль прывітае іх.
Ды застанецца ў сэрцы ён —
Горад,
           адзін на дваіх.

## ПЕРШАЕ КАХАННЕ

Так лёгка дыхае вясна,
А сэрца сціснецца да слёз.
За мною крочыць не яна
Між гэтых стоеных бяроз.

Вачэй наіўнае святло
Шчэ не захмарана тугой.
Ёй не скажу я, што ў сяло
Сюдою крочыў за другой.

І буду шчыра цалаваць,
Не наракаючы на лёс.
Яна не ўмее раўнаваць
Да гэтых стоеных бяроз.

## СОН-ТРАВА

На сонечнай паляне баравой
Мяне сустрэў агеньчык сіні твой,
Нібы пагодны позірк з-пад брыва,
Душы маёй надзея, сон-трава.

Нібы за сонейкам сланечнік, так
Хадзіў я за дзяўчынаю, юнак.
І проста ўсё было, як двойчы два.
Вясны той адгалосак — сон-трава.

Даўно яна пабраная з другім.
Ды б'е па сэрцы зраненым маім
Пагодны сіні позірк з-пад брыва.
Дзень добры, чуеш?
Чуеш?..
Сон-трава...

* * *

Такая ноч...
Такая ноч...
Па-над суцішаным абшарам
Зноў падуладна дзіўным чарам
Такая ноч...
Такая ноч...

І вяз на дзедаўскай мяжы,
Як госць з далёкае планеты.
У садзе —
                    падаюць ранеты,
У сэрцы —
                    падаюць дажджы.

Дажджы мінулае вясны —
Ключы да ціхага вяртання
У чысціню твайго кахання,
У вечны боль маёй віны.

## ВІЛІЯ

Твая рака — мая рака.
Мільгае чаіцы крыло.
Чаму ў вачах палешука
Зялёнай Віліі святло?

Маўчыць гуллівая рака,
Нам падуладная дваім.
Твая рука... мая рука —
На стромым беразе стаім.

Адкуль яна, рака, цячэ?
Ды не з-пад каменя ў гаях —

З тваіх усмешлівых вачэй
Пачата Вілія мая.

Пачата кропелькай святла,
Пачата ў сэрцы і крыві.
І я хачу, каб век цякла
Ракою першае любві.

* * *

Таня, Таня, Танюша...
Затравелі лугі.
Толькі час не парушыць
Развітальнай тугі.

Сэрца бачыць далёка,
Трызніць светлай маной.
Адзываюцца крокі
На сцяжыне лясной.

Выпускае узлесье
З прахалоды ажын.
Падарунак? —
Палессе
Падару на ўспамін.

У таемнай грыбніцы
Шчэ тут моцы стае.
Тут такія крыніцы,
Быццам вочы твае.

Будзе плакаць-журыцца
Перапёлка ў жытах.
Будзе з растанню біцца
Сэрца — ранены птах.



Святло бяроз. Яно лілося
Праз зябкі ранішні паўзмрок.
У мокры гай ступала восень,
І сэрца чула гэты крок.

Яе агністая навала
Такой раптоўнаю была.
А над зямлёю астывала
Цяпло буслінага крыла.

**БОРУ**

Я так люблю амшэлыя камлі,
Што абраслі барадамі сівымі.
У нетру ступіш, побач, на зямлі,
Тваё жыццё — сцяжынкаю між імі.

Аднойчы ў чорнай бессані начэй
Пад нечы крык пакутліва і нема
Дзве зоркі распагоджаных вачэй
Навек зляцяць з майго жывога неба.

Я так люблю, я так цябе люблю,
Я жыў, жыву і буду жыць заўсёды.
Стаю, як бор, прыйшоўшы на зямлю
Назло закону лютае прыроды.

Астыне ўсё: цяглiцы, зрок і кроў,
Як стане хатай мне сасна нямая.
Ды не памрэ, я ведаю, любоў.
Запомніце,
любоў магіл не мае!

## РОЗДУМ УНАЧЫ

...А цішыня навокал, цішыня!
На белых сценах ад лістоты цені.
У зорах недасяжных вышыня —
Па-над Зямлёй іх зябкае пламенне.
Па-над Зямлёй іх вечны супакой,
Па-над Зямлёй, што столькі ваявала.
Нібы вякі гармоніі такой
Між зорамі і ёю не бывала.
Паснула ўсё — прадмесці і палі,
Як аджыло на свеце гэтым белым.
Суровая гісторыя Зямлі
Мне чуецца ў маўчанні скурганелым.
Бы з той планеты я пайшоў даўно,
Дзе жыта палавее на выгодзе.
Здалося, бачу: паўз маё акно,
Як цені продкаў, сунуцца стагоддзі.
Пачварныя, маўклівыя, яны
Брыдуць самотна ў смутным безгалоссі.
На кожным ранаў не адной вайны,
Нібы на целе воя, засталося.
Якім ты, век мой, ступіш за парог
Быцця зямнога? — усё яшчэ загадка.
Адно, каб ты, зыходзячы, збярог
Трывогу нашу — памяць для нашчадкаў.
Каб між скразных крыклівых ранаў
зла —
Ўсіх бойняў свету — праведна,
не цьмяна
Нашчадкамі прыкмечана была
І Хірасімы жудасная рана.
У памяці, у сэрцах ёй шчымець
Ва ўсе зямныя часы незагойна,
Бо помніць трэба: ўсёй планеты смерць
Хаваецца ў адной з наступных войнаў.

Цяпер у спратах свету не траціл,—
Ракеты, што начынены уранам,
Нейтронамі смяротна-хіжых сіл.
Каму такая спадчына сабрана?
...У зорах ноч!
Асмяглая зямля...
Ніводнага жывога адгалосся.
І цішыня...
Яна, нібы пасля
Ўсяго таго...
Як страшна падалося.

* * *

Павыйдзіце з былінных курганоў,
Зямлі маёй былінныя героі.
Крылаты прывід смертаноснай зброі
Ваш сон зямны сягоння будзіць зноў.

Пачуўшы вашы раці за спіной,
Лягчэй ступаць пуцінаю зямной.

І вы, хто спіць бясслаўна у зямлі
У спратах дзён аджытых, паўзабытых,
Сягоння абзавіцеся з нябыту —
Адкуль і хто вы?..
І на што ішлі...

Пачуўшы вашу згубу за спіной,
Лягчэй ступаць пуцінаю зямной.

## ЧАКАННЕ СОНЦА

Дасвецце... Пяць напружаных хвілін.
І ўжо з-за лесу вогненная лава
Уніз цячэ
            і росна морак плавіць,
Зіхотна стыне ў голлі вершалін.

Здзіўленне дню: вось ён, тварэц красы!
Плыве ў расянай цішы прахалоднай
Агністы шар вялізны, жыццяродны —
І свет на ўсе гамоніць галасы.

Расу атросшы з крыльцаў, жаўрукі
У небнай вышы сцішана лунаюць.
Іх срэбны спеў —
гармонія зямная —
Знітуе ў жыце новыя вякі.

## СЦЯЖЫНА

Няма даўжэй на свеце сцежкі той,
Якая мкне да нівы залатой.
Зямныя часы крочылі сюды,
Сярпы смылелі ў пальцах дацямна.
Учора, сёння, заўтра...—
назаўжды
Хадой жыцця пратоптана яна.
Як жыта нажадалася зямля!
Яно ўзышло на ўзгор'і мазаля,—
Радзіла поле густа валунамі.
Душы мужычай неспатольны сверб
Маёнткі высякалі бізунамі.
Абкрадзены магнатамі-панамі,
На дне дзяжы пракіс мужычы хлеб.
Мясілі ў дзежках цеста — кроў і пот.
Мясілі век. Мясілі сотні год.
А побач ззялі боханы, як злiткі.
Хрумсцелі скібкі на зубах сабак.
Ды жабракі счарсцвелыя абжыткі,
Б'ючы паклоны, торкалі пад світкі...
І пальцы гневу сціслiся ў кулак!

У роях цёплых ветраў каласы
Гудуць, як продкаў даўніх галасы,
І цешаць слых — мы продкам не
чужыя.
Адна ў нас кроў, адны ў нас мазалі.
І чуйна ў веснім парыве зямлі
Зярняты прачынаюцца тугія.

## УДОВЫ

Далёка спяць ад вёсачак Іваны
Пад покрывам магільным той вайны.
А ў хатах б'ецца слёзна
надламаны
Іваніх век прагорклы, зацяжны.

Слязінаю душыліся ў бяссіллі
На самай горкай, клопатнай сяўбе.
Патайна ад дзяцей адгаласілі.
Іх помнячы,
Не помнілі сябе.

Старэчыя, на вуліцах вясковых
Яшчэ і сёння носяць мазалі.
— З-за клопатаў,— мяркуюць так удовы,—
Забавіцца прыйшлося на зямлі.

У іх адныя пра дзяцей гаворкі,
Па леце ўнукаў разгалосны хор.
Са сцен драўляных пазіраюць зоркі —
Нясуць Іваны вечны свой дазор.

Удзячныя паштоўцы, тэлеграме,
Дыктуюць пісьмы ўцешныя заўжды,

Хоць з пенсіі прыдбалі шчодра ў краме
Усё, у чым падацца на клады.

І самі ў думках — дзесь за той мяжою
Пад часты скрып мярлінных палазоў.
Няўжо аднойчы станешся чужою
Мне, вёсачка, без іхніх галасоў?

Без песні той,
                    што ў дзень пагодны весні
На покуці вяла пра ўдовін лёс.
Я з ёю рос.
І сёння ў гуках песні
Балесна чую прысмак скрушных слёз.

Я крою свет на кіламетры, мілі —
Мільгаюць горы, гмахі гарадоў.
Ды ведаю: іх не дажджы абмылі,—
Абмылі слёзы горкія удоў.

І скрозь усе вар'яцкія пагрозы,
Над вогнішчамі новых Хірасім,
Як соль жыцця, праступяць матак слёзы,
Аброненыя ў Бабчыне маім.

* * *

Плодная восень — воз па драбіны —
Коціцца вулкай сяла.
Кіне на рукі і на маршчыны
Промень апошні святла.

Воз той пабачу — сэрца заные.
Вёскі былiннае лёс:

Рукі азяблыя, рукі старыя
Грузяць з адышкаю воз.

Будзе калоцца пожня, як доля.
Ў грыве — істужка зары.
Ранняя восень...
Позняга поля
Вёска разгрузіць дары.

* * *

Зямлі маёй сівыя мацяркі,
Сініцай стукне ў шыбу ваша доля,
Падняўшы дзён былых мацерыкі,
Пазваўшы зноў сваё засеяць поле.

На тым сяйве —
старэчая рука,
Што сіверам прастуджаным прашыта,
Расцісне сок сырога камяка
І на слязу сваё аброніць жыта.

...Прайшлі гады.
Мінуць услед вякі.
Ды не відаць на полі гэтым пожні,
Хоць у жыцця,
як колас той апошні,
Зямлі маёй сівыя мацяркі.

У выстылых і выцвілых вачах
Блішчыць астатнім праменем пагода.
І з ношаю зямной —
спачыну згода
Ляжыць-плыве на згорбленых плячах.

Яе не зрынуць звад зямных клыкі
І не паб'е нішчымніца худая.
Сваё жыццё, як поле, аглядае
Сівая бабка
светла, з-пад рукі...

* * *

У хаце двое: бацька [illegible] сын.
Гаворкі мернай суша.
Пасецца зболены ўспамін
На сцежках Гіндукуша.

Баец сівы, хто браў Берлін,
Успомніць гнеўна бога.
У хаце двое — бацька й сын.
А сведкаю — трывога.

За свет расхлістаны яна,
Які звярэдзіў душы,
Дзе грымна ўдарыла вайна
Па горным Гіндукушы.

Хмурэе бацька. Мовіць сын.
Цяжэюць веку шалі.
«З жадобай іншаю Берлін
Мы, помню, колісь бралі!»

Ды ўсё ж не ціха на зямлі,
І свет наш — неспакойны.
Берлін узялі — адышлі
На крок у свеце войны.

І хіжа цэляцца яны
У нашы сэрцы, душы.
Ляжаць бязвусыя сыны
На горным Гіндукушы.

## ПА ДРОВЫ

Душы збалелы ўскрык
Глыне азяблы вецер.
«Ваюе» франтавік
За дровы ў сельсавеце.

Заняты бюракрат
Ківае ўгодна дзеду:
«Няма... былі б — я рад...
Цячэ? Зірну, заеду».

На мыліцы салдат
Стаіць, нібы ў пустыні.
«Няма!» —
І Сталінград
Без дроў у сэрцы стыне.

Няма!
«А дзе ж яны?
У лесе, кажаш, дровы!»
Цана самой вайны
Сівыя зводзіць бровы.

Агніста, з-пад павек
Яе шугае сіла:
«Я столькі дроў насек,
На ўсё сяло б хапіла!

Гарматай на Дняпры
Пасек і лес, і строму.
Схадзі, іх падбяры
І прывязі старому!..»

* * *

Што ж сыходзіце, вяскоўцы,
На клады?
Колькі — бачу! —
Непачасных тут магіл.
Вы спачын сабе абралі
Назаўжды,
А у вёскі
Выбраць бульбу
Няма сіл.
Чую сумна сэрцам
Гэту злосць —
Ад работы адвярнуцца
Як маглі?
Што ж сыходзіце, вяскоўцы?
Знаю, ёсць
І не сцерліся ў магілах
Мазалі.
Не паверу
Чорным дужкам —
Аджылі.
Вольна мкнуцца ў дальні вырай
Жураўлю.
Спее жыта,
Родзіць бульба...
З-пад зямлі
На далонях вы
Трымаеце зямлю.

## МАРОЗ

Люблю марозу люты жар,
На шыбах шчок крываваць раны.
Мароз, як дбайны гаспадар,
Увесь унутрана сабраны.

Прыцісне — важкая рука,
Пацешыць жартам адмысловым.
Не раз вачамі земляка
Зявак пажурыць безгаловых.

Вяскоўцу сціпламу майму
На гнеў марозу не крывіцца.
Той не прыглянецца яму,
Хто рукі грэе ў рукавіцах.

Пячэ мароз. Займае дух.
А сані —
            з рыпам па дарозе.
І дзед, удзеты у кажух,—
Мароз сапраўдны на марозе.

Схавае лес сякеры грук,
Шчыруе дзед — ляснік далёка.
Мароз, як хітры паляшук,
Па-свойму нас бярэ на вока.

* * *

Як журылі яе, маладуху,
І сучылі зласлівую ніць,
Што хапіла у зводніцы духу
У каноплі чужога зманіць.

Нападалі пагрозна і смела,
Бо як гляне з-пад чорных броў,
На вячорках у хлопцаў шалела
Маладая у жылах кроў.

Не адкажа, ўсміхнецца толькі
Саламяная удава.
На вячорках заскача польку —
Лёткай ластаўкай смоль брыва.

— Э-э-х!..— патрэ перад ёй далоні
Умакрэлы ад танца дзед.
І шчымотна пяе гармонік
Пра знявечаны горам свет.

Тут і яблыні, тут і грушы
Б'юцца ночку ў акно галлём.
— Э-эх!
...Даўно маладосць Кацюшы
На сяле парасла быллём.

І гарэніцца прыпамінам
У сівой яе галаве.
І нацешыцца ўволю сынам —
З ёй у хаце сынок жыве.

Той не зычыць нікому долі,
Хоць па-свойму яе кляне:
«Не гуляла...
Знайшоўся ў полі.
Выспеў молада ў баразне».

## ДУБ

Вітаю дуб — палескі небачос!
Прыстанішча вясковых пастухоў.
З маленскіх дзён адсюль у вёску знёс
Легенд і казак — некалькі мяхоў.

Паведае лістотай з нематы —
І кожны дубу аддае хвалу,
Згадаўшы, як узлёг на какаты
І задушыў зубастую пілу.

«То дзіва з дзіў,— брыдзе паданне ўслед,—
Адужаў дуб, высока ўстаў на пні.
І век яго злічылі — не сакрэт —
Каля трохсот гадоў у тыя дні!»

Падрэзіна амшэла за гады,
І шво яе, як складка сцятых губ.
Падпаскаў, нас, палохалі дзяды,
Казалі, размаўляе ў поўнач дуб.

Мы назіркам хадзілі. Ціхнуў смех.
Да вогнішча гарнуліся ў імжу.
Няма дзядоў... А казак — поўны мех.
Не-не ды зноў пад дубам развяжу.

І ўбачу: дзед задумна хмарыць лоб
І бае праўду мудрую сваю:
— Вайна... Раненні... Ведама, хвароб.
Згадаю дуб — і дужаю, ўстаю!

## ВЯСЕЛЬНАЯ БАЛАДА

Ад суму горкага знайсці
Якое зелле?
Не пазабыць, не абысці
Таго вяселля.
І ён — павечна малады.
А маладая?!
На шчасце доўгія гады
Мой род жадае.
Гарчыны лёсу не відно,—
Дыміць махорка.
А ў нечай чарчыне віно
Загусла горка.
Да хрыпу — сілы не стае —
Застолле млела.
І ён, пудлівую, яе
Цалуе смела.
Яна, як гнуткая лаза,
А ён, як вецер.
У маці светліна-сляза
Гарыць на вейцы.
І бацька, спраўджаны хахол,
Жартун вялікі,
Далей, у кут, штурхае стол:
— Давай, музыкі!

Ды горыч выспела ў жыцці
Кустом каліны.
Не пазабыць, не абысці
Яго мярліны.

Яны паслалі свой сувой
Балесна, звяла.
Нявеста юнай удавой
Раптоўна стала.

І маці воч не адарве
Ад дамавіны.
Мінаюць дні, а ў іх плыве
Сынок адзіны.

Ўзышло над юнаю красой
Атруты зелле.
...Грыміць за чорнай паласой
Яго вяселле.

## ЦЁТКА АНЮТА

Слязінай гарчыць,
Б'ецца горкай тугой
Чорных начэй пакута.
Сівая заступніца роду майго,
Цётка Анюта.
Вольнага часу сёння стае,
Болем душа замкнута.
Сцежку адну
знаюць ногі твае,
Цётка Анюта.
Не запытаюся, ты куды
Крочыш травой узмежка.
Ведаю, родная, на клады
Гэтая сцежка.
Хмарыста,
важка ляжыць небасхіл.
Смерцю жыццё жагнута.
Грэеш грудзямі жвір-холад магіл,
Цётка Анюта.
З іх не павыйдуць,
як ні заві
Слёзнай гарачай мальбою.

Позняе неба ў барве крыві
Выстыла над табою.
Толькі не верыш, сумная, ты,
Што абрынаецца ночка.
Выйдуць з бяздоння сырога браты,
Пусцяць паперад сыночка.
Доўга ў хаціне чорнай тугой
Б'ецца начы пакута.
Сівая астатніца роду майго,
Цётка Анюта.

## БЯРОЗКІ

Праз дваццаць год —
І мной ужо спазнана
Дарог зваротных гэткая цана —
Ты падступіла, вёсачка, з туману,
Як сонечнай усмешкі даўніна.

Жвірыстай сцежкай крочу вінавата
Каля тваіх неперспектыўных хат.
З далёкіх вёснаў чую голас брата,
Пад небам гэтым шчэ жыве мой брат.

Шчэ не было зямной суровай дзеі,
Нас гладзіць сонца — вечнасці рука.
Калышуцца няспуджана лілеі
На светла-сінім плёсе азярка.

І ў гэтым свеце росным — навасёлы —
Гукаем радасць ранішнюю мы,
Дзе помнічак пад ліпамі ля школы
Вартуе даўняй памяці грамы.

## ДВОР МАЛЕНСТВА

Закінутыя мы вандроўным лёсам
Былі сюды.
Аддалі думкі выстылым нябёсам,
Брылі гады.

І разгубіўшы, страціўшы без ліку
Гадоў, як зор,
Душою ты пачуў: цябе паклікаў
Знаёмы двор.

Удвух ішлі, мінаючы кварталы,
Ў сутонне, ноч.
Два ускалыхі радасці адталай,
Іскрыны воч.

Між камяніц таемна гаслі крокі,
Стыў зорны хор.
Тры хляўчукі між сцен... Які шырокі
Быў гэты двор!

Бяссоннае, там запазна міргала
Акно ўгары.
Дзе б ты ні быў, душы адно казала:
Ты на двары!

Нясеш жыцця найпершую утому
З зямных дарог.
Вяртаешся, здарожаны, дадому,
На свой парог.

Хлапчук-маўчун з гуллівымі вачамі
Цішэй травы.
Заве цябе з падвор'я голас мамы
Такі жывы...

* * *

Хлапчукі, здарожанымі снамі
Зрэдку забываемся ў жыцці.
У лясы, пасаджаныя намі,
Як у памяць — можна увайсці.

Хай яшчэ не ўзлегла паднябессе,
Толькі ўжо не кволыя — лясы!
Гэтыя — наступнікі Палесся,
Нашых дзён жывыя галасы!

Стынуць першаісна і камліста,
Веюць перастоенай смалой.
Размятуць, разгушканыя, чыста
Сінь нябёс над гэтаю зямлёй.

На шляхах журліва-галубіных,
Перайшоўшы веку паласу,
Гронкамі пунсовымі рабіны
Выстудзяць дрыготкую красу.

Акаймуюць сонечнае поле
Стромыя, у шатах хвой, бары.
І ніколі, думаю, ніколі
Порахам не дыхнуць на зары.

* * *

З цэлым сусветам — адзін на адзін
Гутарку гэту сэрца вядзе.
Чорныя цені чорных гадзін,
Чорная ноч, і жыцця — анідзе.
Скутая ў вечнасці ноч-цішыня,

Вочы зырчастыя зор і планет.
Водсветам болю, зарывам дня
Сёння асмужаны вечны сусвет.
Я не паверу: гэта Зямля!
Гусне трывога чорнай начы.
Хто я? — астанне,
Яе немаўля,
Тут, на арбіты крутым абручы.
Высмакча зрок мой блёсткамі зор
Чорная вечнасць,
Моўчкі ступлю
Ў гэты, раскладзены смерцю касцёр,
Што заглыне на світанні Зямлю?!
Прысак астуджаны — чорны павеў,
Чорна астанне сваё панясу.
Я, хто крывёй хваляваўся-гарэў,
Прахам засею між зор паласу?
Дзе на касмічнай другой паласе
Зноўку у жылах зацепліцца кроў,
Там, у сусвеце, куды панясе
Вечнасці чорная ружа вятроў?

* * *

Вайны сусветнай ці астыла рана? —
Зямля мая, званамі гавары!
Плывуць аблокі.
Дыхаюць уранам.
Драпежна ходзяць светам ліхвяры.

Пасеяць скрозь пустэчы і прагалы!
Аддаць Зямлю пякельнаму агню.
Не бачаць зор высокіх цемрашалы,
Сцінаючы ў руках сваю сяўню.

Свідруе сэрца рык звярыны гэты.
Я па зямлі нашу сваю тугу:
Ці ўберагу зялёную планету,
Адзіную між зор, ці ўберагу?!

* * *

Як гэта проста —
Планету маю зберагчы ад агню.
...Як над пагостам,
Будуць піць зоркі нямую яе цішыню.
Ядзерным дымам
Зорам насустрач планета мая адплыве,
Як Хірасіма,
Што памірала
ў зыбучай жарстве.
Чорным уранам
Зросіць планета сусвету абсяг,
Чорная рана,
Чорнай пагібелі вейлівы сцяг.
Ён паміж зорак
Чорнай каметай аднойчы мільгне,
Чорны свой морак
Згубіць у вечнасці чорнай на дне.
Першая ростань
З сонцам — няўжо ты, планета мая?!
Як гэта проста
Птушак пакінуць спяваць у гаях,
Гэта лісцё,
Што выдыхае гаючы азон,
Наша жыццё —
Светлую музыку дзён.
Шумныя вёсны,
Што прарастаюць мурожнай травой,

Спрытныя вёслы,
Што рассякаюць лёт хвалі жывой,
Мармур і камень,
Што на узлобках сівых курганоў.
Чуйную памяць
Вечна журлівых хатынскіх званоў.
...Ззяблае ранне
Морак калыша густы.
Толькі складаней
Гэтай —
Няма прастаты.

## ДЗЕСЯЦЬ ПРАЦЭНТАЎ

**Расстайная балада**

> Дзесяць працэнтаў —
> такі лік страт
> у будучай ядзернай вайне
> прагназуюць тыя,
> хто прагне яе распачаць.
>
> *З газет*

Нас — дзесяць працэнтаў —
з шара зямнога
Сыдзе ў магчымай вайне.
Нам далакопы кажуць: нямнога,
Вельмі нямнога
смерч заглыне.
І дапускаюць: такое магчыма...
Дзесяць працэнтаў, смяротнікі, нас.
...Неба зямное працята вачыма,—
Ядзернай смерці папас.
Смутна, пагрозна на кантыненты
Чорныя хмары ляглі.

Ходзяць заложнікі — смерці працэнты,
Ходзяць па шырах Зямлі.
Ціха, ледзь кметна над ядзерным светам
Кропля спадае дажджу.
Дзесяць працэнтаў! —
У стоўпішчы гэтым
Дзённа і ночна хаджу.
Чую дыханне апошняй пагрозы.
Ядзерны смерч панясе
Вас, па-за вёсачкай любай бярозы,
Дзесяць працэнтаў?!
— Усе!
Боль незагойны мружыць павекі,
Скрушная памяць трасе,
Там, па-за вёсачкай, выгараць рэкі.
Дзесяць працэнтаў?
— Усе!
Ядзерным смерчам пераражагнецца
Неба, што ўзмахам крыла.
Знаю: на шырах, пад ім, застанецца
Дзесяць працэнтаў
тла.

## ПАЭТАМ

Хто мы? — паэты! Мы з тых дзівакоў,
Зачараваных юнай красой.
Звоняць павевы нашых радкоў,
Быццам на ранку трава пад касой.

Свет першабытнай красой наталіў
Зачараваныя вочы спаўна.
Грае пад небам светлы матыў
Памяці нашай дзіцячай струна.

Волка, як травы, пахнуць радкі.
Роснае сонца наша ўстае.
Хто вы, паэты? Вы, дзівакі?
Сёння ўлагоджана сэрца пяе?

Што яму, сэрцу, у свеце відно? —
Смерч крыважэрны, ядзерны жах!
Песняй якой узарвецца яно
Тут, на Зямлі, у эпохі ў грудзях?!

* * *

Не дайце на згубу сябе і жыццё,
Якое, адзінае, светам кіруе,
Пагрозна, драпежна глядзіць небыццё.
Душа чалавечая чым ахвяруе?

У памяці свету — шырокі бальшак,
Пасланы касцьмі і крывёю паліты.
Куды ні паглянеш:
Усё гэта так —
Паўсюд на зямлі надмагільныя пліты.

Пратораны шлях той вялікай цаной
Збягае далёка — ў зару небасхілу.
Ён дыхае грозна мінулай вайной,
Гатовы мяне падштурхнуць у магілу.

Знявечаны дзідаю воін ляжыць,
З ім разам стагоддзе прымоўкла самотна.
Ды там, пад нагамі, зямля не дрыжыць,
І доўжыцца шлях той пакутна, маркотна.

Паўстане за дзідай гарачы свінец,
Пасеецца густа на жытнішчах свету.
Ды ў гэтым зямля не прадчуе канец,
Франты адваююць у смерці планету.

Ды дзеяй апошняй вайны
груганы
Сягоння вітаюць у ядзерным дыме.
На покліч смяротны злятаюць яны,
Пакінуўшы гнёзды свае ў Хірасіме.

* * *

Раскаты далёкага грому,
Набухлае хмары крыло.
Паганскаму часу быломy
Як неба паверыць магло?

Свае агнямётныя стрэлы
Кідае звысоку яно
На свет гэты стоены, белы.
А дождж — маладое віно.

Да келіха неба вякамі
Зямля прыпадае, п'ючы.
Нябачнымі злымі рукамі
Крыжуе маланак мячы.

Не раз вогнятворная сіла,
Узнёсшага небу хвалу,
Яго, чалавека, вучыла
Зямному разбою і злу.

Пасеяўшы чорнае гора,
Душу яму зноў апякла
Маланкаю вогненнапёрай
На полі крыжастага зла.

Гуллівая, вольная сіла
Чыніла не толькі разбой:
Аднойчы душу азарыла
І ў неба забрала з сабой.

І ў зорных, праменістых высях,
На ўскрайку зямнога каўша,
Адвечна, у слове, зліліся
Маланка, сляза і душа.

* * *

Далёкае... забытае... былое...—
Як адышліся ў свеце гэтым мы?!
Ды страпянецца памяць — наша Троя,
І выкрасе маланкі і грамы.

Яны прайшлі ў крывавым сутарэнні
І беззваротна чэзнуць за спіной.
І толькі — цені, цені, цені, цені...—
Даўгі ланцуг ступае ўслед за мной.

Іх ажыві, прыкутых да стагоддзяў,
І вочы іх нябёсамі налі.
Яны яшчэ прывецяць на зыходзе
Твой крок апошні з гэтае зямлі.

І пойдзеш ты ў бясконцым ланцугу,
Дзе толькі цені, цені, цені, цені.
Наступны хтосьці выпраміць калені
І ўстане горда...

Сэрца, зберагу
Далёкае, забытае, былое,
Сваю заўсёдна помнячы чаргу.

## МОГІЛКІ

Пустынны кут... Тут бацькава магіла
На той, сыходнай з вечнасцю, мяжы.
Каторы век ужо стаяць пахіла
Між слот зямных счарнелыя крыжы.

Трывожна безгалосае дасвецце
На погарбах адмервае хаду.
Магчыма, наблукаўшыся па свеце,
У засень гэтых дрэў і я сыду.

Красуй, жыццё! Хачу, табой адпеты,
Вось тут ляжаць. Адпрэчу жудкі страх
Прад іншым страхам: каб усёй планеты
Смяротны вецер не развеяў прах.

Каб не знайсці спачын ля мёртвай рэчкі,
Дзе з прысакам змяшаецца жарства.
Дзе будуць зоры, дрогкія, як свечкі,
Ва ўсёй Зямлі стаяць у галавах.

## ПРЫПАМІН

Эх, надвор'е на славу!
Палавее раса.
Косіць бацька атаву —
Аж шугае каса.

Крокам пругкім ступае
Ад куста да куста.
І атава якая —
Густата, любата!

Мне, малому, не ўцяміць
(Ён з касой аж цвіце),
Што ў балесную памяць
Гэты міг урасце.

Там, дзе зрошаны травы,
Бацька мой не хадок.
Пахне звялай атавай
Надмагільны грудок.

* * *

Я ў сэрцы прыбярог,
Што ўзмахі крыл,—
Пыл хойніцкіх дарог,
Высокі пыл.

Яго павей-павой
Яшчэ не згас.

Ён захінуў сабой
Прастору, час.
У вокны б'е і ў дах
Праз небасхіл
Да хрусту на зубах —
Палескі пыл.

* * *

Мые вятрыста Хойнікі
Весняя навальніца.
Аўтар «Палескай хронікі»,
Што Вам на зорах сніцца?

Ці ж не пяром агніста
Ў чорнай паднебнай шыры
Тое, што трызна сніцца,
Вы дапісаць рашылі?

Вечны і апантаны
Роздум пра жыцці, лёсы.
Гэта слязамі Ганны
Плачуць мае нябёсы.

Пройдуць грымоты міма? —
Сэрца спатольна хоча.
Гэта са злом Яўхіма
Гром за ракой грукоча.

Аўтар «Палескай хронікі»,
Што Вам на зорах сніцца?
Мые вятрыста Хойнікі
Подыхам навальніца.

* * *

Над былою балацінай
Б'ецца кнігаўка ў адчаі.
Сад вішнёвы за хацінай,
Паплавец у малачаі.

Я пагрукаю з пуціны,
Рыпнуць весніцы старыя.
Адзінока ля хаціны
Вецер спуджаны завые.

Пахне спелай канюшынай
Недакошанае лета.
За матулінай хацінай
Прытаілася паўсвета.

## УСПАМІН

Узлёткі гул...
І вось — схаваны шасі.
Гляджу на свет з-пад хмарнага пласта.
Унізе шматкалёра засталася
Зямных абрысаў стынуць драбната.

Два цягнікі, пусціўшы стужкі дыму,
Бягуць сустрэчна — сінія шнуры.
Два воблакі — у позах пантамімы
Нязрушныя, стаіліся ўгары.

Паўзуць лясоў зялёныя бароды,
Рачулкамі прашытыя наскрозь.
Схаваная пад шатамі прыроды,
Натужная, рыпіць зямная вось.

І ўжо зямля — пад белай павалокай,
І сінька неба холадна цвіце.
Абсяг зямны твае ахопіць вока,
А сэрца — страпянецца на вярсце

Далёкай, той, куды ў паспешцы лётнай
Твой боль імкне, узлёгшы на крыло,
Скуль весткаю збалелаю, самотнай
Пагрукала палескае сяло.

У гэты міг на той вярсце суровай,
Калі ты ў небе — ластаўка жыцця —
Хірургаў двух мужчынская размова
Вяртае маму зноўку з небыцця.

І слепне неба, хмарыста і строга
Пад вогнішчам заходняе зары.
І моліш ты ў ім страчанага Бога:
Сюды, ў нябёсы, маму не бяры!

## БРАТУ

Ты помніш, брат, як сонца пагасла?
Раніца, а яно не ўзышло.
Так жыта кладзецца на перавясла,
Як маміна цела на рукі лягло.

Два сыны, два асілкі, два сокалы,
Мы трымалі Яе з няўцямнай журбой.
А неба чарнела сляпуча, высокае,
Неба, прыручанае табой.

У чарнаце той успыхнулі зоры
І, працінаючы слепату,
Ззябла міргалі ў чорнай прасторы,
Гледзячы ў нашых вачніц пустату.

З іх незямнога таемнага рою
Бачная самая зорка адна
Ззяла над светам і над табою,
Халодна-сіняя,
як мамы труна.

## НОЧ З ЧЭРВЕНЯ 1983 ГОДА

Засціла неба зрок,
Цемру крамсалі фары,
І працінала змрок
Сэрца удары.

Праз лясы і жыты
Дарога вяла мяне —
Дадому вярталася ты,
Мама, у вечным чаўне.

Неба світала росна,
Слепла душа.
«Позна... позна... позна...»—
Коламі пела шаша.

Чорна ляцелі далі,
У цішыні начной

Вогнікі ўсе стаялі
Свечкамі над труной.

Боль незагойны, востры
Памяць узварухне.
Гэтай дарогі вёрсты
Зноў пазавуць мяне.

Я не прашу збавення,
Шляхам тваім іду,—
Вёска пустая стрэне
І навядзе жуду.

## МАЦІ

Спі, родная. Жальбой бясконца
Душа мая пад небам апавіта.
Магільны груд — тваё цалуе сонца,
Магільны сон — тваё калыша жыта.

* * *

Мама, якое высокае жыта
Б'ецца аб могілак скошаны плот.
Колькі табой не дажата,
                                        дажыта?! —
Скажа на ніве зямной умалот.

Ты аб адным, знаю, смерць папрасіла
Тут, на мяжы, перад цемрай пустой,
Каб спаконвечна плыў над магілай
Жыта зямнога аржаны настой.

* * *

Сястра мая,
Сагрэй бацькоўскі дом
Сваім дыханнем і душы цяплом.
...З вакон святло ліецца, і мяне,
Бяздомнага вандроўніка, з дарог
Радзіма пракаветная гукне
На свой, вятрамі мецены, парог.
Да зорнае пясчынкі, што відна
На белым дне ляснога ручая,
Убачыцца, адкрыецца яна,
Радзіма пракаветная мая.
Я прыгарну душой яе пагост,
Дзе на вятрах, у вечнасці нямой
Самотнымі крыжамі між бяроз
Ужо сышліся бацька й маці...
Мой
        боль прыкуты к погарбам магіл.
Шугае ў росных барвах небасхіл.
Я прыгарну душой
                    вачэй святло
Маіх вяскоўцаў. І адхлыне боль.
Не з тых я тут, каму яно, сяло,
Нясе ў парадных стрэчах хлеб і соль.
Без солі хлеб з падобнае рукі.
З маленства іншы чую хлеба смак —
Салілі крута, потам, землякі
Паміж балот
                    згібелых дзён праснак.
І сёння тут жывуць святой з патрэб,
Мазольна вецяць веснюю сяўбу.
Вядзе зачаста лівень малацьбу,—
Ды будзе хлеб!
Я знаю: будзе хлеб!
...Сястра мая,

Сагрэй бацькоўскі дом
Вясёла-хмельным поклічам радзін.
Па звычцы цёткі сядуць за сталом.
І першынец —
Твая дачка ці сын —
Люляцца будзе ў той калысцы самай,
Па-над якой (як светла помню я!)
Нас па чарзе віталі вочы мамы...
Сагрэй бацькоўскі дом, сястра мая.

* * *

Крыжуюць вокны, забіваюць хаты
На вуліцы, дзе першы крык і крок.
Я прызнаю душою: вінаваты
Багата я за гэтых вокнаў змрок.

Мне выпала сюды вяртацца хіба ж
У бессанях здарожаных начэй,
Лавіць душой, як ясняцца за шыбай
Дзве зорачкі матуліных вачэй.

У далечах зямных яна павінна
Адкрыцца сэрцу, гэтая віна:
Вядзе дамоў нас памяці сцяжына,
Не грузне пад нагамі баразна.

Яна твая, расхрыстаная воля,
Імклівая ў палёце, як страла.
Ды помню я: далей ржанога поля
Нікуды сцежка маму не вяла.

І жоўта прамянелі вокны ў хаце,
Калі запозна вечарам, штодня,

Дамоў сваю утому несла маці.
Бязгучна спіць на сцежцы цішыня.

Высокаю, здзічэлаю травою
Час незваротна селішча замкне.
Тут ступіць памяць босаю нагою,
Ды на падвор'і травы не прымне.

* * *

Ты пройдзена, трывожная вярста.
Вяртаюся, яшчэ стае мне сілы
Ступіць у свет —
Ад матчынай магілы,
Пабачыць: гэты свет — не пустата.

Тут вея жыта — подых аржаны,
Люляецца крынічная рачулка.
А ў вёсачцы — салдату спіцца мулка,
Да вокан блізка ліпне цень вайны.

Жыве ў клапотах дзедаўскі мой род
Пад зоркамі — з аседласцю зямною.
Ён ці жагнуты ядзернай вайною? —
Ён жыта сее між зямных нягод.

Мне сёння з жыта сіні васілёк
Вачамі сына светлы шлях падкажа.
А на плячах — тугі зямной паклажа,
Вяртаюся да вёсачкі здалёк,
Адтуль,
з забытай дзедаўскай мяжы,
Дзе сонца меркне, стыне
на крыжы...

## БЯССМЕРЦЕ

Рукі твае...
Бачу рукі твае, мама.
Яны не мелі часу спачыць,
Нястомныя.
Яны і з магільнага холаду —
Бачу! —
Цягнуцца,
Цёплыя,
Да каласоў,
Дрэў і птушак,
Гладзяць галоўкі ўнукаў —
Дзяцей маіх.
Грэюць цяплом цэлы свет.
Вочы твае...
Бачу вочы твае, мама.
Я ніколі, прызнацца,
Не помніў колеру іх,
А сёння
Іх выстылай сінькай паднебнай
Глядзіць гэты дзень.

Сэрца тваё...
Я чую, як яно тахкае,
Збалелае, хворае,
У чорных грудзях планеты.
Няўжо ёй, мама,
Маючы сэрца тваё,
З арбіты сысці?

* * *

Ёсць гэты час — прыліў астатніх сіл,
Твой боль зямны у неаплатнай страце.
Ісці далей...
Ад родных дзвюх магіл —
Магілы бацькі і магілы маці.

Усё зямное ўзважыўшы наноў,
У бездані скразной сірочай ночы
Дайсці душой да тых сваіх высноў —
Што вечнае? —
Дачкі і сына вочы.

Я запаліў сузор'е гэтых воч,
І адступаюць, гаснуць змрок і ноч.

## ДАРОГА

— Ты мяне павяла. Помніш тое?
Сонца плыло над зямлёй залатое.
Бегла далёка ты, бегла бясконца.
Ведаў: зачэплена краем за сонца.
Крочыў штодня, не шкадуючы сілы,
Гаслі заходам зары
небасхілы.
Ты адкрывала новыя далі,—
Душу яны хараством наталялі.
Горныя пікі і морскія шыры
Стыглі дасветна, як шляху пункціры.
Неба чужое сінькаю днела,
Памяць вытокаў у руху
драбнела...

Ды на прывалах у зорныя ночы
Скрутна, сцярожка ступалі на ўзбоччы
Рэчка,
што мары дзяцінства люляла;
Поле,
што сіне валошкамі ззяла;
Лес,
што патоліў душу гаманою,—
Светлымі снамі ступалі за мною.
Часта салодкую хвілю вяртання
Сэрцу дарыла памяць кахання:
Вочы,
што небна, высока яснелі,
Губы,
што ярай зарой палымнелі,
Рукі,
што кветкі ў лузе ірвалі,
Птушкі,
што гімн той любові спявалі.
Я ж — не спяшаўся здалечы вярнуцца,
Так, мімалётна, жадаў азірнуцца,
Скмеціць былое і зноў адступіцца,—
Сэрцам з палескай крыніцы напіцца:
Крочыць наперад — клікалі далі,
Звабаю руху душу захаплялі...

Раптам яно, падарожжа, пастыла,
Сэрца тугою радзіннай заныла,—
Згаслі, змутнелі нябёсы чужыя.
Звала шчымотай скразной настальгія:
Тое, што ў руху мізэрна драбнела,
Ў сэрцы расло, паўставала, віднела...
Рэчка,
з жаўцянай жвірыстай касою,
Поле,
з дасветнай халоднай расою,

Лес,
з зелянцоваю мяккай імшарай,
Неба,
з высокай, таемнаю марай,
Голас кахання, забыты, астылы,
Продкаў за вёскай старыя магілы,—
Бачныя сэрцу шыры і далі
Ногі і вочы мае адбіралі.
Я прыпыніўся на ўзбоччы, дарога.
Чуў, як спытала ты гнеўна і строга:
— Што ж ты, вандроўнік, дачасна
стаміўся?
Што ты ў краі далёкім забыўся?
Глянь, як праменіцца высь зіхатою!
Годзе супыну, вярста за вярстою,
Рушыш далей і пазбудзеш сумнення,—
Вяне і чэзне увосень карэнне.
Новае чэпка, трывуча бярэцца.
Годзе ля вогнішча даўняга грэцца!
Далі адкрыю табе агнявыя,
Сэрцам пакратаеш струны жывыя
Новага лёсу, новае долі...
Пуста і хмура было ў наваколлі...

— Як бы завабна не клікала-звала,
Сэрцу, я чую, дарога, замала
Беглага руху, дзе, на вітрыне,
Рэчкі і горы, масты і пустыні.
Поіш адно краявідамі вочы,
Дых іх халодны
і сэрцу — сірочы.
Як адышоўся вандроўнік! — вярнуцца
Памяць гукае: рукой дакрануцца
Мне б да аернай дрыготкае юні,
Вольна прайсціся сцяжынай ля руні,
Там, на кладах, над грудочкам халодным

Думаць пра маці...
Аб вечным...
Аб родным...
Чуць, як душа страпянецца жадобна,
Будзе да шэрае кані падобна,
Просячы піць, узвівацца пад неба.
Будзе спатоляй адна ёй патрэба:
Дыхаць радзімай на поўныя грудзі.
Будзе душа тут.
І вечна прабудзе!
Смутак бярэзнік асенні агорне.
Жораў тужліва затрубіць на горне,
Клікне збірацца да вечнага лёту,
Сэрца пачуе разлукі самоту...
Толькі тады, не забраўшы нічога,
Ценем ступлю на цябе я, дарога.

## ПАГЛЯД НА ЗОРКІ

Адкрыта ваша таямніца, зоры,—
На службе ў чорнай Вечнасці, было,
Вы патухалі ў выстылай прасторы:
Цяпло аддаўшы, цэдзіце святло.

Я ведаю: усеабдымным рухам
Вас пашча змроку хіжа заглыне.
Аддаўшы неба зорным завірухам,
Зноў выкрасе матэрыя мяне,
Таго,
хто ў мёртвай, выстылай прасторы,
Прымоўкшы на адной з жывых
планет,
Душой языцкай вас прывеціць, зоры,
Вачамі працінаючы сусвет.

* * *

— Вы пад небам, як рыбы пад лёдам,—
Стагоддзяў зямных скупы запавет.
У зорныя вышы імкнем самаходам,
Галасна клічам на цэлы сусвет:

— Шукаем разумных братоў!
Дзе яны?!
Тых адшукаць бы,
хто вокам староннім
Гляне сягоння на клопат зямны,
Нас ад пагрознай бяды абароніць.

Прагне сенсацый ядзерны свет,
Чорнае смерці спеліць насенне.
Клюгае смерць насамі ракет,
Крыламі ракет шугае збавенне:

— Шукаем разумных братоў!

## НАЧНОЕ БЯЗМЕЖЖА

Нарач, налітая месяцам поўным,
Ценька ляжыць у начы на далоні.
Вышнія зоркі ў мігценні чароўным
Роздых стаілі ў прачыстым палоне

Глыбі,
узнятай да вышы таемнай,
Ноччу адкрытай бясконцасці свету.
Вечна ў стагоддзях жыві узаемнасць,
Дорачы сэрцу ідылію гэту.

## КАЗКА

Плывуць аблокаў белыя сувоі,
Рыпіць на хвалях выстылы паром.
Нібыта дзіды пакідалі воі
І спяць ля стром.

А ноччу гляне месячык рагаты,
Агусне змрок над зрошанай травой
І ахіне прытоеныя хаты
У полаг свой.

Стамлёнаю, прыпозненай гадзінай
Пагасне вокнаў жоўты ланцужок.
Начны агеньчык — цененька, адзіна
Мігне здалёк.

На сценах граюць водбліскі вясёлкі.
Трашчыць агонь, віруе ў чыгунку.
Бабуля ў печы крута варыць зёлкі
Маладзіку.

## ДВА ВАСІЛЬКІ

Рыжая пожня.
                    І хлапчукі
Шустра куляюцца ў копнах саломы.
Не размінуцца!
Быццам маломý,
Глянулі ў душу два васількі.

Тут, на памежку,
                    жаткай не зжатыя,
У адзіноце, без жытняй сцяны,

Так сіратліва сінелі яны,
Дрогкім быццём прад зямлёй вінаватыя.

Пасма саломы ляцела з рукі
Хлопчыка русага,
                    золатам слалася.
Пожня калолася,
Ног не цуралася.
Нёсся да вёскі малы напрасткі.
Памяць — вячыстым блакітам
                              займалася...
Ціха гушкаліся
Два васількі.

* * *

Дарог былінных восеньская ўтома.
Як пацалунак,
                выстылы ранет.
Матулін ганак рыпка скажа:
— Дома!
Палоска лесу адмяжуе свет.

Прастору хопіць звабліваму воку:
Зор — уначы,
                падзённа — сінявы.
...Цярэбіць вецер дрогкую асоку,—
Тут ладзілі гулянні журавы.

Тужліва блудзяць цені на балоце
І ўсё, што тут прымроена, жыло.
Шматок нябёсаў родных.
У палёце
Сячэ падхмар'е сцішана крыло.

Асенні дзень журбою жураўлінай
У грудзі б'е шасці мацерыкоў.
Не выстыне гаркавай журавінай
К табе любоў мая, зямля бацькоў.

* * *

Дайце крылы жураўлю
Для высокага палёту!
Не прывязана к балоту,
Свет абсяжна я люблю.

Хай высокім будзе лёт,
Як высокі зорны роздых.
Ды на выспах, між балот,
Нашы хаты, нашы гнёзды.

* * *

Абкладае грады лісцем
Сад старэчы, дзедаў сад.
Тут прывецілі калісьці
Вочы — жніўня зарапад.

Неба полымна лілося
У сутонне, на зямлю.
...Кружыць вейна, жоўта восень,—
Сэрца лістам акрылю.

Запалю высока зоркі
Ў небе сцішанай зямлі.

Блізка-блізка яблык горкі
Дзесь хаваецца ў галлі.

Граюць зоркі, як ніколі
Асвятлячы душу.
Яблык страты, яблык болю
Абарву і надкушу.

* * *

Туга адлётных журавоў —
Трывожны покліч з небнай вышы.
Журбой запальваючы кроў,
Ідзе пара асенняй цішы.

Мая лясная старана,
Дзе рукі, ўцятыя ў маршчыны,
Бядуеш, журышся здаўна —
У горкім выраі — мужчыны.

Ступіла старасць на парог,
І небны кліч адлётнай долі
Мне столькі скарбаў прыбярог,
Што можна душу напатоліць

Гарчынай праўды і тугой,
Замесам слёз, бядой скразною.
І я шапчу: зямлі другой
Не будзе... Гэта будзь са мною!

Я тут. Я выснены жыццём
Яе вякоў, на гром удалых.
Мой хлеб — замешаны з асцём,
Мой сум — адчайна-небывалы.

Ды ўсё ж — упартых хопіць сіл
Прайсці свой шлях і кроку збыцца.
Ад курганоў яе, магіл
Нагой, не сэрцам адступіцца

І пад тугою журавоў,
У неба глянуўшы начное,
Сваіх дарог, сваіх палёў
Пажаць душой святло зямное.

## ГРАНІЦА

Душы маёй святлістая дзянніца,
Зямных дарог разгорнуты сувой.
У памяці адкрыецца, граніца,
Паўстанак твой.

Шапоткіх вербаў месячныя строі,
Па рэйках мерна грукае вагон.
Прыціхне сэрца на падлёце мроі,—
Твой перагон!

Да шкла вагона прыпадаюць ветры
Туманнаю, накрапістай імжой.
І сэрца смутна лічыць кіламетры
Зямлі чужой.

Шырокі свет. Дарозе не спыніцца.
Паўстанак твой праводзіць зноў мяне.
Ды дзе б ні быў у свеце я, граніца,—
Я сэрцам на радзімай старане.

* * *

Аблок высокае свячэнне,
Душы хвалюючы узлёт.
Зямля... Апошняе імгненне —
Імчыць узлёткай самалёт.

Праходзіць стомнае чаканне,
Душы напружанне, калі
Яна пачуе хваляванне,—
Адрыў ад ранішняй зямлі.

І ты, узнесены ў салоне,
На ўзмежжы змроку і святла,
Сябе пачуеш у палоне
У рэактыўнага крыла.

Цяпер яно — табой кіруе,
Гудзе напятаю струной.
Яно, бывае,— ахвяруе
Тваёй узнёсласцю зямной.

Ды ўсё ж спалошнае імгненне
Студзі дакорліва ў крыві.
Ірві зямное прыцягненне,
Прыкутасць вечную — ірві.

І азірай абсяг шырокі,
І забывай паднебны рай,—
Дзе мякка спяць у травах крокі,
Зямлю звысоку азірай.

На схіле шарае гадзіны —
Там будзе лета ці зіма —
Ты зразумей: твой шар — адзіны,
Другога гэткага — няма.

Там неба чыстае, святое,
Лясок, рачулкі берагі.
На ўзлеску сцішаная хвоя,
Лугоў зраселых мурагі.

Шалёна, дужа, без аглядкі
На крылах век цябе нясе.
...Я зычу мяккае пасадкі
На гэтай роснай паласе.

## АКІЯН

Пазнаў і я характар твой круты,
Начной зямлі раз'юшаны буян.
Напорам хваляў зыбаешся ты
У берагах — Вялікі Акіян!

Каўтае ноч трывожны, скуты рык.
І доўжыцца наш спуджаны начлег.
У хвалі крута сходзіць мацярык,
Каб супыніць пагрозны іх набег.

Я на зямлі, канешне ж, устаю,
І ты набегі гнеўныя пакінь.
Ты подаўна пусціў душу маю
На бераг гэты з пеністых глыбінь.

Адчуўшы цвёрды грунт мацерыка,
Не чую сёння гулкі твой дакор.
Зірні: мая узносіцца рука
Да зор.

* * *

Замглёна неба высачынь,
Слабее раструб жураўліны.
І сэрца просіцца: спачынь
У гронцы вогненнай каліны,
У лёце кволага ліста,
Што, волкі, пахне спелым летам.
Як першабытна немата
Над восеньскім шчыруе светам.
Замры і слухай цэлы свет.
І вось яна, хвіліна тая:
Паміж сузор'яў і планет
Пульсуе сэрца, прарастае
Словам.

## УСМЕШКА ДЖАКОНДЫ

Са стагоддзяў выходзіць у залы
З гледачамі вітацца вачамі,
Чуць здзіўлёныя хоры-ухвалы,
Прахалоднымі стынуць начамі,
Вандраваць пад аховай па свету,
Ахінаць кантыненты рукамі,—
Сатвараліся ў муках партрэты
У стагоддзях зямных мастакамі.

Перад майстрам застыгну, удзячны,
Я, вандроўнік сягонняшні свету.
Не завузка і спрошчана бачны
Свет, усмешкай мадонны сагрэты.
Над яго ным самотным спакоем,
Што забыта, азябла вякуе,
Як, маэстра, смяротнай рукою
Запалілі усмешку такую?!

* * *

Ў юнацтве светла, нечакана
Пагляд высокі апячэ.
Мы пагаворым, знаю, Ганна,
Даросла, горда...
І яшчэ
Ты развітаешся з маленствам
За гэтай гулкай паласой,
Мяне азорыш падабенствам
З Яе высокаю красой.
Заграюць вочы непадманна,
І блісне позірк — вастрыё.
І ў нечых вуснах светла — Ганна —
Імя зацепліцца тваё.
І ты пагодна абзавешся
Пад небам сцежкамі дзвюма,
Маё вячыстае Палессе,
Маё высокае імя.

* * *

Нальецца антонаўкай ядранай
Запознена стомлены верасень.
А з памяці — белаю яблыняй,
Ты, весняя, русая, вернешся.

У свежым буянні, у квецені,
У ночы, што поўняй напоена,
Сцяжына мая не замецена,
Прастуе паўсюд за табой яна.

Блукаю гадамі, здарожаны,
Між гэтага вейнага пошуму,

Красою тваёй заварожаны
Да слова, да ўздыху апошняга.

І дзе б ты на хвілю ні стрэлася
З маёй адзінотніцай-памяццю,—
Душа вогнятвора ўзгарэлася
Пялёсткавай белаю замяццю.

Прыходзіш чужая і ззяблая,
І вочы — дзве кропелькі просіні.
Зрываю апошнія яблыкі
З самотных галін тваёй восені.

* * *

Скажы, няўжо кахала не мяне?
А потым дні сірочыя лічыла,
Любові рану першую лячыла
І столькім гаварыла:
Не і не?
Нам не семнаццаць. Можам расквячаць
Кілім любові хітра, з асцярогай.
Ісці другімі ходжанай дарогай
І чуць, як вусны здрадліва гарчаць.
Не! Нам спазнаць пад небам нашых дзён
Любові гордай
зваблівую волю
І пракаўтнуць раўнівы прысмак болю.
Які абсяг зямны душы відзён!
Яшчэ няскора восень і дажджы,
Нам не стаіцца ў скрушным іх маўчанні...
Шчэ столькі слёз чутно ў тваім дыханні.
Скажы мне ўсё, каханая, скажы.

* * *

Дажджынка ўпала, апёкшы шчаку.
Не праганяй кроплю малую,
Пачуй, у лёце стрымаўшы руку:
Дажджынкай кожнай
Цябе цалую.

Сняжынка села на губы тваё.
Не праганяй пякучку малую.
Як яна соладка растае.
Сняжынкай кожнай
Цябе цалую.

* * *

Памяццю начной
Сэрца запалі.
На зямлі адной
Мы ўдваіх жылі.

Гронкі спелых зор
Нам святло лілі.
Астуджу дакор,—
На зямлі — жылі...

Падалі з галін
Яблыкі ў садах.
Нас яднаў адзін
Гэты небны дах.

Праменем святла
З раніцы, здалёк,

Ты зямлёй ішла,—
Чуў я кожны крок.

Колькі лет і зім
Ростанню-мяжой
Па жыцці маім
Ты ідзеш чужой?!

## СНЕГАПАД

Трыпціх

### I

Ён ступаў бела-бела
Мітульгою бязважкіх пушын.
Далеч светла мігцела
У трохкутніках —
                    фарах машын.
Калыхаўся над горадам
                    снег,
З вышы неба злятаў—
                    у паўзмрок.
Над зямлёю разгушкана бег
І студзіў кожны крок.

На вялікай і цёплай зямлі,
Дзе віхуры ішлі неўпапад,
Сэрцы двух гэтай ноччу пілі
Прывітання свайго снегапад.

Па афішах усіх кінакас
Слёзна, мокра, падцёкамі бег,
Як далёкі і страчаны час,

Беззваротны, зямны
Першы снег.

Паўжыцця за такі аддасі,
У завеях жыцця ідучы.
Ды зялёнае вока таксі
Мільганула ў завейнай начы.

Там, за снегам — яго мітульгой,—
Што хістаўся, як морак густы,
Падалася прыветнай, другой
Мне, як зорка адкрытая,
ты.

Калыхалася снежная плынь,
Ціха засціла мокрае шкло.
Я шаптаў:
белай веяй астынь
Ўсё,
што голас жывы падало.

II

Гэты лес... Ён спеваў поўны.
Тут бярозы — пад аблокі.
Голас памяці чароўны
Зноў абудзіць нашы крокі.

Тут, у шатах першабытных,
Дзе паснулі ў зморы ветры,
У вачах тваіх блакітных
Загараўся ранак светлы?

...Я згадаў цябе, былую,
Не пагасла неба ззянне.

Я цалую, я мілую
Памяць гэту — да світання.

Мутна сыдуць навальніцы
Цішынёй густой забыцца.
Ды астуджанай крыніцы
Піць брую — і не напіцца.
Так паднебнага блакіту,
Што глядзіць яе вачыма,
Да змяркання, да нябыту
Мне напіцца немагчыма.

Апаліла ранак росны
Стома выспелага лета.
Адцвілі, збуялі вёсны
Хараством, цвіценнем кветак.

Так пад востраю касою
Гаснуць зоры канюшыны.
Захапляюся красою
Летам стомленай жанчыны.

У красе яе высокай
Хараства агонь адкрыты,
Як у яблыку, што сокам
Перастоеным наліты.

III

...На вялікай і цёплай зямлі,
Дзе завеі прайшлі неўпапад,
Сэрцы двух гэтай ноччу пілі
Прывітання свайго
снегапад.

## ПЛОШЧА ПЕРАМОГІ

Да агню твайго Вечнага —
Мужнага сэрца маёй зямлі —
З ройнага Шляху Млечнага
Тыя збочваюць,
Што ў вечнасць пайшлі.
Горадам ходзяць —
Памяццю курных дарог —
Ратнікі, сцяганосцы і трубачы.
Блізка-блізка
шорганне ног
Чую ўначы.
І калі
выхапіць золак
плошчу з паўзмроку,
Падпаліць зару ад яе агню,
Чую, як аддаляюцца крокі —
у цішыню, у вышыню.
І тады
горад абуджаецца дрэмны,
Тупае гулка па бруку вуліц, мастоў.
І вогнікаў-кветак
на плошчу прыносіць бярэмак
Яго маладая,
як світанне само,
Любоў.

## СЭРЦА

Сэрца маё, між вятроў чатырох
Ты на зямлі не астыла.
Горача дыхае памяць эпох,
Б'ецца спатольная сіла.

Густа круцілі вятры па вясне
Прысак Хатыні сірочы.
Прысакам біла памяць па мне,
Толькі не засціла вочы.

Тут, на зямлі, дзе зрасела сляза,
Дзе нагулялася зброя,
Сэрца, ці ж ты па вастрэчы ляза
Скоцішся
нежывое?

Нам не забеляць чырвоную кроў
Тыя, што збіліся ў зграю.
Вечна пагрозная ружа вятроў
У беларускага краю.

Ружа вятроў любай зямлі!
Ядзерны свет неспакойны.
Сэрца, ты помніш:
сюдою ішлі
Ўсе крыжаносныя войны.

Б'юцца крылата аб холад муроў
Ветры. І смерч — не адпеты.
Сёння пагрозная ружа вятроў
Нашай зялёнай планеты.

Дыхае ветрам зямны небасхіл,
Круцячы ядзерны попел.
Выстаяць, сэрца, хапіла нам сіл,
Веру, і свету іх хопіць.

Горача дыхае памяць эпох,
Б'ецца спатольная сіла.
Сэрца маё, між вятроў чатырох
Ты на зямлі не астыла.

## ЗОРНЫ ЗАПАВЕТ

Зоркі ў нябеснай вышы!
Вас недасяжнасць,
Палонніца чорнае ночы,
Вечна трымае
На ззяблых далонях.
І толькі мой зрок
Кратае зерні-бліпічынкі
І набліжае да сэрца.
Сонцы Сусвету,
Дзе ў мораку вечнасці
Вашы арбіты ляжаць?
Адкуль і куды вы?
Тысячу год —
Ці багата? —
Кружыце вакол сэрца майго.
А што,
Калі сэрца маё захлынецца,
Прабітае атамам?
Сыдзеце, зоркі, з арбіт?
...Вам у бясконцасць ляцець,
З холадам біцца ў міжзор'і,
Дыхаць цяплом і жыццём,
Гушкаць планеты,
Як гушкае маці дзяцей.
Запомніце, зоркі:
Я жыў на Зямлі,
Чалавек,
Дзіця вашага Сонца.

* * *

Шкадаваў не раз: далёка
Вы, радзімыя мясціны.
У здарожаным чаканні
Бавіў тлумныя гадзіны.

А сягоння злыбядою
Падышліся гэтак блізка,
Свет жахнуўшы мой шырокі,
Вёрсты крэслячы,
Да Мінска.

## БАЛЕСНАЕ

Зацярушаны стронцыем,
Апавіты тугой дамавін,
Пад лагодаю сонца,
Любы край,
Ты адзін.

Больш гарчыстае долі
Пашукаць —
Не сустрэць.
Жаўталісцем таполі
Страпянуцца табе,
Дагарэць.

На былінным кургане,
Пад сівымі вятрамі нябёс,
Палынамі паўстане,
Краю мой,
Твой атручаны лёс.

Вам, насельнікі краю,
Пракаўтнуўшы разгубу і жаль,
Гэты збор ураджаю —
Пакасіць і пажаць.

Вам сабраць да каліўя
Гэту смуту
І сэрцам дапіць.
Як жа колецца жніўе —
А камусьці
Патрэбна ступіць...

## ВЯРТАННЕ

Запаліце полымя, рабіны,
Смутна і трывожна ў галавах.
Я, бядой апалены, павінны
Вызнаць пракаветны гэты шлях.

Ён у хвалях жытніх патанае,
Глухне рэхам спуджана ў бары.
І туга нядрэмная зямная
Па-над ім у водсвеце зары.

Верце, я пагрукаю з дарогі,
У нябачных промнях не згару.
Не глядзіце спудліва на ногі,
Я з падэшвы стронцый абатру.

Я хадзіў па беразе высокім,
Дзе сінее Прыпяці каса,
Дзе бярозы набрынялі сокам
У пустых, асмужаных лясах.

Бавіў там я думныя гадзіны,
Дрогка спаў на зорных вугалях
І спазнаў душою: ён адзіны,
Вечаровы, тумановы шлях.

Век стаяў, пагрозны і раскуты.
Як паданні, воблакі плылі.
І крыніцы, поўныя атруты,
Гаварылі праўду аб Зямлі.

## РАДАЎНІЦА

Ты кажаш сэрцу, родная: у свеце,
Паглянь, ані хмурыначкі бяды...

*З ранейшага верша*

Мама,
        па астылай зямлі,
Якая легла кладамі, мёртвая,
Сцежкі мяне на спатканне вялі.
Шчака — счырванела-мокрая.

Мама, я слёзы душыў,
                    калі
Ішоў за тваёй труной.
У смуце жалобнай па цёплай зямлі
Вёска ступала за мной.

Ты адплывала ў вечным чаўне,
Хаду маю мерала небам,

Здаецца, шаптала з Вечнасці мне:
— Плакаць не трэба.
Бачыш, якою густой сцяной
Жыта наўзбоч каласуе.
Паразмаўляй жа лепей са мной,
Матчына сэрца пачуе...

Сосны...
На домік твой баравы,
Зябка крануўшы далоні,
Сцеклі нячутна жменькі жарствы,
Сцялі пякуча скроні.

Воддаль, у вёсцы — жыццё гуло,
Голас тужыў дзявочы.
Неба высока, блакітна плыло
І адбірала вочы.

— Свет гэты, бачыш, сын,— не клады.
Студны іх змрок за спіной.
Бачыш, у свеце ні ценю бяды!
Паразмаўляй са мной.
Спынішся ціха на родным двары
Ці на чужыне з тугой —
З матчыным сэрцам пагавары,
З горкай маёй душой.
Памяццю буду тваёй ажываць,
Сцежка — сюды паверне.
Людзі абступяць — паспачуваць,
Слова ўпадзе, як зерне.

...Я сіратой пад небам стаю.
Чорнае неба цэдзіць
З сухмарка
на магілу тваю
Стронцый і цэзій.

Мама,
　　　ішоў я з-пад крыл бяды
Вёскаю скутай, нямой.
Леглі шырока твае клады.
Паразмаўляй са мной.

## У БАБЧЫНЫМ ЛЕСЕ З ІВАНАМ ПТАШНІКАВЫМ

Іван Мікалаевіч, горкне ў губах маіх слова.
Грукае ў сэрца прагрэс.
Палессе... Бунтуюцца сокі вяснова.
Вы помніце лес?

Якія бярозы павыраслі ўжо на выгарах,
Карэнне — ў пясок.
І промень-свавольнік
Гуляў казытліва на тварах:
— Уважце мой сок!

Жвірыстае ўзлессе...
У травах пасохлых пnative межкі.
І ціша зямлі.
Нібы ручаіны, каровіны сцежкі
Да вёскі цяклі.

На выпасе вечным з малочнаю ношай —
Чароды аблок.
Бярозавы сок над сівой верасовай раскошай,
Гарэністы, цёк.

Асмяглыя вусны студзіў прахалодай —
Не кожны глыне.
І дыхала вечнасць

Вільготнай, упрэлай прыродай,
Як Ной у чаўне.

Іван Мікалаевіч,
Блізка, на скронях Еўропы —
Ледзь толькі крані —
Пагоняць атрутнай бяды ізатопы
Лясоў карані.

І памяць нячутна ступае на тыя памежкі,
Клубіцца імгла.
Астыла, забыта каровіны сцежкі
Бягуць да пустога жытла.

Клякоча у скроні — адрынуты, ў зоне
І гэты лясок.
Б'е ў сэрца, у памяці кроплямі звоніць
Бярозавы сок.

* * *

Птушкі,
Як перастрэць вырай мне ваш
У небе пагодным?
Абляціце бяду!
Абмініце кут родны!
Гэта век мой суровы — адзін — вінаваты,
Што пустымі сустрэнуць хаты.
Вы, прыручоныя да майго жытла,
Гляньце з неба:
Яно пустое, жытло.
Абмініце бяду
узмахам крыла,
Абляціце маё сяло!

Бусел белы і ты, чорна варона,—
Горкне сумам маім забаронная зона.
Балаціны — Малую і Вялікую Пель —
Абмініце, птушкі неба майго!
Скіне заўтра пяро на сяло журавель,
І ніхто не падхопіць яго.

## 29 ЖНІЎНЯ 1986 ГОДА

Гэты жнівеньскі ранак
Боль у колы упрог.
Я ступаю на ганак,
На бацькоўскі парог.

Тхло сырэчае ў хаце,
Праіржавіўся дах.
Толькі памяць пра маці.
Траўны груд на кладах.

Толькі думы-наівы
Прыбягуць з цішыні.
Сад ля вокан. Налівы.
Шэпча боль: «Не крані!»

Захліпнецца ў пакуце
Белым светам душа.
Свет у хіжай атруце.
Пі — нібы з гладыша!

А на вулцы вясковай
Звычны дзень, звычны год.
Хтось ідзе за каровай.
Хтось капае гарод.

Гулкай раніцы крокі,
Звон людской гаманы.
Ды — аблокі, аблокі
З-за рачной стараны.
Ападаюць на хаты
Белакрылым крылом.
Ды — салдаты, салдаты.
Бэтээры — сялом.

Вось ля хаты мы сталі.
Глянеш —
вочы баляць.
— Што нам грозіць? —
спыталі.
— Будуць вас высяляць...

— Ета рацыя! Чулі!
Ды такое бяды!
Тры сівыя бабулі.
Тры сухія дзяды.

...Будуць вёсны вітацца
З апусцелым жытлом.
Будуць думкі вяртацца —
Крочыць гэтым сялом.

Будуць смягнуць у полі
На зары каласы.
Ды не зглухнуць ніколі
Тых старых галасы.

Як спакойна, разважна
Мне сказалі тады:
Гэты свет неабсяжны,
А падзецца — куды?!

«Асталося нямнога,
Ляжам тут, дзе усе...»
Палявая дарога
Па каўдобах трасе.

Зона... Могілкі вёскі...
Тры сырыя груды...
Тры журбы адгалоскі...
Тры дарогі бяды...

## ЖУРАВЕЛЬ НАД КАЛОДЗЕЖАМ

Выкаўзаны да бляску
вочап.
Ні следу на снезе,
снег слепіць вочы.
Сутулішся, ад ношы гадоў
гарбаты,
над студняю
ля матулінай хаты.
Нават тады,
як засціла неба
абложна імгла,
зорка не меркла,
ў глыбінях тваіх жыла.
Боўтала вядро з перапуду,
спатолю піла душа.
Варажыў на вадзе тваёй:
памятаць буду.
Адбірала, несла шаша.
Сягоння мёртваю хмарай
неба тваё заплыло,
і вочап вецер атрутны кратае.

Мёртва, бязгучна зімуе сяло.
Мёртвая зона —
за матчынай хатаю.
У веку,
дзе жудасны подых скразны,
вусны мае
смага першая апякла.
Над смерцю тваёй
зболена шэпчуць яны,
над зоркай,
якая згарэла датла.

## ЗАВЕЯ

З небам злілася зямля,
Вея шугала, мяла.
Снег, як густая імгла,
Першы, каляны, круты,
Сыпаў на стрэхі сяла
І на платы.

Вейная, лётная бель.
Сцюжна крактаў журавель,
Ветрам разгойданы вочап.
Белая вея сплыла,
Ясна растала імгла,
Сонца сляпучае — ў вочы.

Бела віхляла шаша,
Слепла ад снегу душа,—
Краю, бядою замкнуты!
Там, у сумётах гадоў,
Памяць не кіне слядоў,
Снег растае некрануты.

Прывідам ядзерных зім
Выстыў, згубіўся на ім
Ранішні след чалавечы.
Памяццю смутнай зямной,
Горкаю, чорнай віной
Стукне завея у плечы.

Голас аддаўшы бядзе,
Вейна да шыб прыпадзе,
Скруху-жуду пагукае.
Там ад сяла да сяла,
Там са двара да стала
Доля хадзіла людская.

Мёртва, у снежнай пурзе
Сонца лядзяш дагрызе,
Кроплі-слязіны аброніць.
Там, ля пустога жытла,
Вея кружыла-мяла,
Беллю асела на скроні.

## 1986 ГОД

Ты мне ахвяраваў
З радзімай развітанне:
Шаптанне мёртвых траў,
Крыніц атрутных ззянне.

Астылы матчын двор,
Усплёск самотны рэчкі,
Чароды зяблых зор,
Што ўспыхнулі, як свечкі.

Я ў спуднай дзеі жыў
На ўскрайку той віхуры.
І верыў, і тужыў,
І кляў твае хаўтуры.

Ты даў душы адказ,
Бядой спаўна памецціў,
Які драпежны час
На ядзернай планеце.

Бяда трывожных хмар
На поле церушыла.
Чарнобыльскі пажар
Адвага патушыла.

Трывога б'е ў званы
Пустэльнага абшару:
Хто гэты шар зямны
Ўратуе ад пажару?!

Шаптанне мёртвых траў
І пошум труннай хвоі...
Ты кут мой адабраў —
Пакінь Зямлю жывою!

* * *

Кут мой забыты, безабаронна
Зорыш пагаслых крыніц вачыма.
Некаму ты —
Ачужэлая зона,
Сэрцу майму ты да скону —
Радзіма!

Сэрца пачула грознае ліха.
Ззяе крывёю спуднае ранне.
Спяць у магілах прадзеды ціха.
Горыч атруты...
Холад выгнання...

Долю зямную гнеўна караю,—
Век мой абраў тут сейбішча болю!
Тут, на абсягах роднага краю,
Кінуўшы смуту шчодраму полю.

## РЭХА Ў СВЕЦЕ

Пакідаю абжыты кут,
Крочу ціха па жухлай пожні,
Памінаючы: мамін тут
Крок апошні і ўскрык апошні.

Неба роднае заплыло
Шызахмараю памарокай.
Безгалосае, спіць сяло —
Памяць спудна галёкае.

Спачываць затравелай тут
Сцежка матчына застаецца.
Пакідаю абжыты кут
І майго палавінку сэрца.

У другой жа — збалела жыць
Свету, значанаму бядою.
Як расінка, яно дрыжыць
Над пакутаю і жудою.

## ЗЯМЛЯ

Горкая, прасоленая потам
І слязой, што ўпала, як капеж.
Не адкласці век зямны на потым,—
На зямлі прасоленай жывеш.

Скрушная, акураная дымам,
Попелам, пасеяным ля меж.
Век курыць асмужнай Хірасімай.
На зямлі абвугленай жывеш.

Дзень зямны, абпоены крывёю,
Дагарыць, як гэты скрушны верш.
Станеш пракаветнаю зямлёю.
На зямлі засмучанай жывеш.

Век зямны — ён лёткі і кароткі.
Памяць, нібы зорку, запалі.
Хай пачуюць з вуснаў нашых продкі,
Што жылі як трэба на зямлі.

## МОЙ ВЕК

Болем агучыць зямныя вякі
Ён, ад пажараў чорны.
Гойстрыя смерць шчэрыць клыкі —
Пякельны,
Пячорны.

Сталлю не раз дратаваў і сек,
Полем здзічэўшы мінным.
У душагубках звозіў калек —
Маторны,
Машынны.

Дыхае ўдушшам нямых мегатон
Прывід вайны шкілетны.
Ўсё на прыцэле трымае ён —
Радарны,
Ракетны.

Ззяблая знічка ўначы ўпадзе.
Згасне ў бруі крынічнай.
Зорнай няўжо узвіцца бядзе,
Век мой касмічны?!

Шар мой зямны, у прожылках рэк
Лёг ты, як ноша, на плечы.
Колькі вякоў зберагу я за век,
Век чалавечы?

* * *

Вечнасцю неба наліта,
Сінім густым халадком.
Спее высокае жыта,
Светла глядзіць васільком.

Росна, праменна світае
Свежай крыніцы бруя.
Вёрсты зямныя гартае
Хмурая памяць твая.

Тут, на выгарынах свету,
Сэрца твае прарасло.
Сэрцам калышаш планету —
Доля, калыска, жытло.

Маеш куток свой абжыты —
Поле, аблога, рака,
Росы, аббітыя з жыта
Мокрым крылом жаўрука.

Маеш айчыннага цвету
Тканае мамай радно,
Вечнасць і гэту планету,
Гэтае поле — адно.

Шэпча высокае жыта
Праўду сваю аб зямлі.
Вечнасцю неба наліта,
Вечнасцю сэрца налі.

## ДВА ВЕТРЫ

Палын памежкі абаўе
Пагорклай памяццю ўдавы.
І вочы сінія твае
Захмараць крыллем журавы.

Яны ляцелі, клін вялі
У небе ранішнім якраз,
Як смутай чорнаю зямлі
Цябе асмужыў грозны час.

Ты грушай выстыла ў журбе
Тут, на падвор'і, на вятрах.
Вятры, згінаючы цябе,
Аслабла гаслі ў вечарах.

Круцілі пыл на той вярсце,
Дзе дрэмле згорклы прыпамін,

Дзе сіва-зжурана расце
Крывёй аброшаны палын.

Ты іх лагодзіла душой:
Два ветры буйныя — сыны.
Там, за расстайнаю мяжой,
Паміж бяды, сярод вайны.

Пачуць умела галасы
На гэтай выстылай зямлі —
Ва ўсе вякі, ва ўсе часы
З табою гутарку вялі.

І ў шлях апошні — як віна —
Пакутны шлях, самотны шлях,
Твая журботная труна
Плыла на спеўных двух вятрах.

* * *

Палігоны ядзернага веку,—
Чэзлы хмыз, прапалены пясок.
З вечнасці гукае чалавеку
Ззяблай зоркі ценькі галасок.

На траве, жалезам дратаванай,
На жарстве,
у спруце баразны,
Дзень пакіне грозна, непадманна,
Жорсткі след магчымае вайны.

Ліст над ім наструніцца зялёны,
Кветка нізка долу прыпадзе.

Уздыхаюць глуха палігоны
Ўслед сусветнай будучай бядзе.

Ацякаюць выстылым блакітам
Вочы іх, схаваныя ў лісці.
Бой аглухне...
Мрояць: спелым жытам
Хоць аднойчы, светла, парасці.

## ПЯСОЧНЫЯ ГАДЗІННІКІ

Сачу, як мерна сочыцца Час.
Падаюць блёсткі-пясчынкі жывыя,
Зацерушыўшы стагоддзі сівыя,
Дрэмле глыбокая памяць у вас.

Продак мой выйшаў з сырых пячор,
Светам, язычнік, спаўна жахнуты.
Рукі над вечнасцю распасцёр,
Даўка глытаючы вашы мінуты.

Лука сціналася цеціва —
Мерна, павольна плыла жарства.
Трапна у звера ляцела страла —
Ціха, цягуча жарства цякла.

Войны крывавілі траўны дол —
Ціха сплываў пясчаны памол.

Свет звар'яцелы, у мітусні
Ты паратоўе шукаеш адзінае,
Выбухам ядзерным не супыні
Продкам заведзеныя гадзіннікі.

Там, у вечнасці нежывой,
У неба чорнага па шчацэ —
Пясочны гадзіннік —
Зыбучай жарствой
Планета-смяротніца ўся сцячэ.

## ХРОНІКА АДНАГО ВЕЧАРА

Стратаў зямных, Чырвоная кніга,
Старонку для запісу адгарні:
«Я дыхаў пылам тваім, Няміга,
Які клубіўся,
поўнячы дні
Глухасці нашай і застою,
Лудзіў глоткі —
да хрыпаты!
Ступаў я побач
зямной вярстою,
Пылам мяне
асыпала ты.
...Калі на горад плылі крыжаста
«Месеры» карычневае чумы,
Разам з людзьмі
сціналіся з жахам,
Няміга,
і твае дамы.
Чырвоным рэбрам цаглянай кладкі
Яны,
запыленыя,
зірнулі пасля,
Калі надрывіста, без аглядкі,
Хадзіла «баба»,
Гула зямля.

О, колькі пылу!
Як густа, крута
Ён плыў над горадам,
чорны,
тады.
Адышкі нашай зямной пакута.
Няміга,
дай мне глыток вады!
Стагоддзяў даўніх скразная страта,
Стагоддзяў новых —
зямны віток.
Гарляк гарачага тэхнакрата
Няхай астудзіць
святы глыток.
Сягоння рвуцца
застою жылы,
П'ючы вячыста тваю брую.
Я з-пад абломкаў,
з-пад друзу, пылу
На чэзлым сметніку —
устаю!»

* * *

Цярусяцца кіслотныя дажджы,
Спадаюць хмары ношай снегавой.
Пагрозліва, распяццем на крыжы,
Наступіць дзень матэрыі жывой.

Якой вадой зямны ўмыеш пот?
Сувой хмурын паўзе гусцей, гусцей.
Я ведаю:
усіх зямных балот
Вада была за гэты дождж чысцей.

Няхай у бросні млела і гніла,
У торфе хлюпкім чвякала,
Ды ўсё ж —
Свяцей, чысцей яна, вада, была
За гэты снег,
За гэты спорны дождж...

Далонь падстаўлю — смутай апячэ.
Няўжо вось так, атрутная, яна
Ў наступны век з нябёсаў працячэ,
Каб нехта выпіў боль зямны
Да дна?!

* * *

У лесе, у нетры сырой глыбіні,
Дзе гойдае цемрыва золак,
Тапыршчацца крута ўгару карані
Вятрамі павыдраных ёлак.

Ім выпала тут, на зялёнай зямлі,
Зрабіцца забытай трухою.
— Дачасна і згубна карэнні згнілі,—
Аклікнецца сэрца тугою.

А можа, іх стратны і здрадлівы лёс
Залежны ад ветраў прагрэсу,
Дзе воды аселі і ўсох жаўтапёс
На згубу айчыннаму лесу?

Суровы над імі занесен тапор,
Учуўшы загубы ухвалу.
Сцяжынай маленства іду цераз бор —
І скрозь... барыкады павалу.

У гэтай струхлелай, нямой цішыні,
Не кметнай здаля чалавеку,
Ім, смутна палёгшым, ужо не спыніць
Уздыхі пагрознага веку.

Прайшлася размахам злавечым бяда
І рэхам дакоціцца, вухне.
Упаўшай яліны да болю шкада
І той, што не выстаіць, рухне.

## СНЕГ
## ДЗЕСЯЦІ ЗІМ

*Ірыне*

Як горка ссох быльнёг,
Шапоча ў скутай скрусе.
Як снег зіхотна лёг,
Шугае ў завірусе.

Агністая, яна
Сумёты намятае,
З відна і да цямна
Гады мае гартае.

Ў палескае сяло
Ішла з дарамі восень.
Вяселле тут гуло —
За снегам засталося.

Завеі гамана,
Снег хрусне пад нагамі.
Матуліна труна...
Завеяна снягамі.

Ля хаты сад стары,
Дзе яблыні світалі.
Тут росны след сястры
Снягі пазамяталі.

Замётна.
Не дайсці.
Пустуе двор і хата.
У зімах дзесяці
Мяце за стратай страта.

У снезе абалонь.
Імжы навісла сажа.
Адно няхай на скронь
Сыпчак зімы не ляжа.

## НАТАШЫ

Мая сястра, дарогі лёсу —
Няма кручэй, няма гарчэй.
Бядой пасоленыя слёзы
Стаяць у сухмарках вачэй.

Вакзал. На ім вандроўцаў многа,
Гудзе, праводзячы гасцей.
Твая абсечана дарога
На згорклай хойніцкай вярсце.

Абрэжа шлях імклівы, лёткі
Ляска зарэчнага чубок.
За Парычамі, з паваротк,
Ты глянеш смутна ў родны бок.

Прыпынак новы. На паўкроку
Сустрэне цёплае жытло.
А ты брыдзеш, не верыш зроку,
Душой у роднае сяло.

Брыдзеш па выстыламу полю,
У хату ступіш са двара
На крылах памяці і болю,
Мая пакутніца-сястра.

Тугі зямной шугаюць крылы,
Імкнешся ластаўкай туды,
Дзе стынуць родныя магілы,
Дзе смутна журацца клады.

Дзе хаты — зеўраюць пустэчай,
Дзе зона суму — за спіной,
Дзе лёг бядой жагнуты вечар
На скроні першай сівізной.

Ў хадзе цяжкой пристануць ногі,
Ступіўшы ў лёсу каляю.
На ўзбоччы скрушнае дарогі,
Цябе праводзячы, стаю.

* * *

Як лётка дні, змятаючы лісцё,
Імчаць насустрач вейнай завірусе.
Разбегам дзён спяшаешся, жыццё,
З адзінай думай светлай у хаўрусе

Пра свой працяг, пра клопат свой зямны.
Табе адкрыты далі ветравыя.

Ды ўжо гаркотай з роднай стараны
Зіма Палесся сіверна завые.

І гасне бляск маіх высокіх дум,
І мкнуць вятры — узмыленыя коні.
І я хачу, каб іх гаркавы сум
Застаўся там, у ачужэлай зоне.

На той, адзіна смутнай паласе,
Дзе завірухай мкне туга зямная,
Лясы мае — рэнтгенамі трасе,
Душу маю — самотай працінае.

Не цішынёй сваіх лясоў і траў,
Не нетрай першабытнага спакою
Ты, скуты век, спаўна ахвяраваў
Адным: маёй балеснаю душою.

Яна блукае ў свеце, нічыя,
І глухне, быццам восень у спелым лісці.
Ды ведаю, што на кругі свая
Яна, ахвяра, вернецца калісьці.

І ў сцішанай, забытай пустаце,
Сінечу адбіраючы ў блакіту,
Яна трапётка, зорна прарасце
Адзінаю валошкай сярод жыта.

## ВЯДРО ВАДЫ

Не стрэць з пустым, а з поўным перайсці
Дарогу на жаданую удачу,
Бо зведала не раз сама ў жыцці
Цану бяды, пакутлівага плачу.

Вачэй упалых выстылая сінь
Мне ўслед зірне —
як памяць дня зямнога.
Вяртаюся. Туга мая, астынь.
Тут радасці жыцця было замнога.

Тут казкі свет — прычасце і выток
Душы з крыніц вячыстага славянства.
Надзеі лёткай ранішні віток
І цвёрды грунт зямнога пастаянства.

Ды замутнёна плынь прачыстых рэк,
Дзе чэзне мол і бераг жаўтапёсы.
І ты, ўсяго сусвету чалавек,
Глядзіш з мальбой на гэтыя нябёсы.

Вячыстым, сінім, зоркавым каўшом
Да цішыні радзіннае прыкуты.
І хілішся збалела за глытком
Табой адным спазнанае пакуты.

* * *

Пра балота...
Якія таемныя казкі
Памяць шэпча, сабраўшы на прызбу
дзядоў.
Пра балота...
Іржавыя гільзы ды каскі
Нёс дадому пад воклічы хмурых удоў.

І была там бадзяцца да ночы ахвота,
Дзе язычніца-памяць астыла ў журбе.

Гэты вогненны свет —
хліпкай цемры балота —
На прасцягах Зямлі
Абступае цябе.

Там, у нетры яго,
Таямніча і хіжа
Стогнуць моташна чорнага зла крумкачы.
Меркне ў цемры густой,
Зорным полымем ліжа
Таямнічая сутнасць зямное начы.

Завывае ваўкамі і кляцне клыкамі
Ноч-пакутніца ў сумнай сваёй варажбе,
Абступіўшы пагрозна усімі вякамі
На зямным астраўку,
Як малога, цябе.

І каму ж у высці надрывацца ахвота?
Ночы зорнай святло,
змрок густы спапялі!
Хай адступіцца зданямі смерці
Балота...
Як шырока і скрозь
Загніло на Зямлі...

* * *

Прычакалі спудлівай пары.
Шар зямны ў дажджах атрутных мокне.
Прапануюць яблыкі: бяры!
Толькі сэрца, як сейсмограф, ёкне.

Па шчацэ вясновы цёплы дождж
Сцебане, заспеўшы ў росным полі.
І гадаеш зноў: чаго ў ім больш,
Кіслаты або звычайнай солі?

Век, як старасвецкае гумно,
З ніў сваіх рупліва звозіць жыта.
З недаверам думаеш: яно
Чым у полі, буйнае, наліта?

Бульба беларускае зямлі!
Свет табе гасцінна, шчыра рады.
Ды атрутна клубні налілі
Кінутыя хіміяй нітраты.

Поіш, век, жывыя карані
Чэзлаю хімічнаю атрутай.
Адступіся, сэрца не крані,
Не налі астатняю пакутай.

* * *

Стамлёная бабка — сукасты кіёк у руцэ —
Па сцежцы, самотна,
памежкам брыдзе на клады.
І промень апошні святла на старэчай шчацэ,
І позірк вачэй — жывы, малады.

Яе прыгадаю — і сэрца з адышкай нямецць
Ў грудзях пачынае.
Як важка старая ішла.
Ступала з кіёчкам. Нібыта праводзіла смерць
Абранніцу-бабку сюды, на клады, ад жытла.

Хвіліны журбы медзь каўтае трубы,
Збалела вярэдзіць душу на хаўтурах маю.
Дзе выйдзе на вуліцу кожны, і ношку журбы
На спінах вяскоўцаў прыціхлых сваіх пазнаю.

Ад поту салёная, важкая ноша, яна
Журлівым паглядам праводзіць труну на клады.
Стамлёна ступае, калі адплывае труна,
І з клопатам «жыць»
павяртаецца ў вёску, сюды.

Салёная ноша зямное гарчыны — быцця,
Змахнуўшы рукою прыгорклае смуты слязу,
Вяртае жыццё да клопатаў сваіх, да жыцця,
Забыўшы пра тое, каго і куды павязуць.

Стамлёная бабка — сукасты кіёк у руцэ.
У шлях незваротны
паслым памежкам — наўпрост.
Высокае сонца. Гарчэе сляза на шчацэ:
Не дойдзе старая на ціхі вясковы пагост.

Не ляжа туды, дзе у родавай кладзі магіл
Пазначана месца зямное для ношкі яе.
Трывожнаю барвай палае зямны небасхіл,
І вёска пакінутым пеўнем на золку пяе.

У ядзерным свеце апошняя стыне труна,
Яна адплывае пад зданню атрутнай бяды.
Пагрозна сягоння гукае ў сэрцах яна,
Што наша планета, у сутнасці, тыя ж клады.

І болю зямнога — замнога на кожнай вярсце.
Стамлёная бабка... Сукасты кіёчак — наўпрост.
Магіл не далічыць, здзічэлай травой парасце
Пакінуты Смерцю за вёскай палескай пагост.

## ПАВЕТРА

Яму аддалі гаючы азон
Лясы запаведных зямных зон.
Мае надпрыпяцкія гаі
Лілі азон з лісцёвых глотак.
Пелі дасветна ў гаях салаўі,
Цвіла на ўзбалотках лотаць.

...Ды праляцеў адзін самалёт.

Хваль акіянскіх шалёны вал
Біўся аб мацярык круты,
Неслі цунамі шалёны шквал
Морскай прасоленай чыстаты.

...Ды праляцеў адзін самалёт.

Выдых адзін — з мільярдаў губ,
З соплаў ракет,
З выхлапных труб,
З дыманосных усіх каміноў.
Гасне, туманіцца неба зноў.
Пульсуе астатні зямны кісларод.

...Ды праляцеў другі самалёт.

Смутны, ў адышцы зямной стаіш.
Стыне на небе
Белы крыж.

## НА ЮРАВІЦКАЙ ГАРЫ

Адкуль, з лесу якога,
з-пад прыпяцкай стромы
сюды, на гару,
маманта нёс чалавек?
Гнуліся рыпка
насілкі-дзяржанкі,
рэжучы голае крутое плячо,
і вочы,
як зоркі-пульсары,
збівала з арбіт
радасць шалёная...
Пламенне займала
паўнеба.
Воблакі,
як паразвешваныя шкуры,
унізе плылі.
Параскіданымі біўнямі
шчэрылася гара...

Бяру мамантаў бівень
(колькі іх на гары адкапана!)
і чую,
як спуджана ўздрыгнулі дрэвы,
гатовыя зноў паверыць,
што вернецца ўсё на зямлі
да кастра першабытнага...

* * *

Стагоддзямі прыкуты да Зямлі,
Ты мацаў зрокам блёсткі вышніх зор.
Дзе вечнасць развяла жывы касцёр,
Яны іскрыста, зваблівa плылі.

Ды вось — убачыў позірк твой зямны:
Блішчаць, даўно пагаслыя, яны.

I сам, падобна зорнаму святлу,
Пра іх апошні дапісаўшы верш,
У стылую, міжзорную імглу
Душой сплывеш.

* * *

Ахіні — бела-бела — крылом
Вечаровую вулку, бусел.
Я пагрукаю ў кожны дом,
З кожнай студні
Вады нап'юся.

Той радзіннай зямлёй, сваёй,
Пакіруюся ў шлях далёкі.
Сумна, дзіка ўзышлі на ёй
Палыны ды асокі.

Горкнуць крокі бяды, хады,
Смягнуць сцята і суха ў горле.
Выйдуць з хат перастрэць дзяды:
Не паверу — дзяды памёрлі.

Там, пад крыламі злой вясны,
Стрэлы-промені агнявыя.
Моўчкі рушаць дзяды,
Яны
Барадатыя і жывыя.

Цішынёю завейных зім
За прыгорбленымі стагамі
Курыць люльку мой дзед Яўхім,
Месіць снежны крупчак нагамі.

З балаціны плыве туман,
Жнівень стыне ў дасветных росах.
Зводзіць плечы мой дзед Раман.
Дух атаўны плыве ў пракосах.

На зямлі, пад крылом бяды,
Дзе сцяжыны ў адну зліліся,
Як сумленне зямлі,
Дзяды
Крочыць памяццю засталіся.

* * *

Шумёлы лёсу — пад дугой
Грымяць на ўезджанай дарозе.
Няхай замецена пургой,
Няхай аддадзена трывозе

Сусвету хліпкая душа.
Мігціць, як выстылая зорка.
А ты — студзёнку пі з каўша
У зорным небе адвячорка.

Хвасты зыркатыя камет
Тваім палётам зацугляны.
І бела спіць мурожны свет,
Трымціць, як клёна ліст каляны.

І вецер, з подбегу — у твар.
Круглююць шляху каляіны.
Ірдзее выспелы пажар
Марозам сцятае каліны.

І неба ў полымі зары.
У перамеценай лагчыне
Два трапяткія снегіры
Склююць па ягадзе-гарчыне.

* * *

Вы слухалі музыку ночы —
Высокую музыку свету,
Калі нарастае аднойчы
Туга, калыхнуўшы планету?

Калі патанае ў міжзор'і
Зямля і часціна сусвету
Пяе на вятрыстым надвор'і.
Вы слухалі музыку гэту?

Ёй дадзены свету харалы,
Высокага неба дзянніцы
Яе, агнявую, стваралі
Бясконцасцю ўсёй таямніцы.

І ў гэтым таемным аргане
Багата душою пачута.

І ў гэтым парыўным дыханні
Збалелага свету пакута.

Адкуль мы? Чые мы? І хто мы?
Скажы мне, зямля, па сакрэту.
Мне слухаць, не чуючы стомы,
Агністую музыку свету.

* * *

Як дзённы пот, расу аброніць вечар,
Павёўшы дзень пуцінаю зямной
Туды, дзе ў вышніх зорках спее вечнасць,
Занятая работаю адной:

Тварыць жыццё — з імглы густой і пылу
Распальваць дні на зоркавых кастрах.
І весці іх згасанне з небасхілу,
Абрынуўшы на свет змяркання страх.

Тады ў астуднай велічнай прасторы —
На космасу бясконцай паласе —
Перад табою страпянуцца зоры,
У душу глянуць, колькі ёсць — усе!

Адчуўшы іх ірдзістыя мінуты,
Глядзіш з сваёй аседласці зямной:
У іх свае, высокія пакуты —
Гарэць датла у цемені скразной.

Яны ў адным усеабдымным руху,
Як кветкі ў густа сплеценым вянку,
Імкнуцца ўвысь, твайму падобна духу,
Па вечнасці таемным цаліку.

## БЛАСЛАВЕННЕ

Агністы вам адкрыецца сусвет,
Ліловым шляхам зорным павядзе,
Апаліць душы водсветам камет,
Крамяным, як лілеі на вадзе.

І пусціць вас на зорны сіні плёс,
Вякі даруе — здзейсніце палёт!
Адны пазнайце найзайздросны лёс
Дароў высокіх — вечнасці шчадрот.

Зямля адпусціць ваш нятленны дух,
Імжой не перакрэсліўшы сырой.
Мільярды новых зорных завірух
Сагрэюць сэрца вечнасці старой.

* * *

Журыце вандроўнага бога,
Наш лёс — у гайданцы калёс!
І зноў пагукала дарога
Разбегам да выстылых слёз.

І зноў — беззваротнае чую,
Святліну душа заглыне:
Пры месяцы поўным начую
У ціхай лясной старане.

Гамоніць дарога, спявае,
Грукоча, снуе палатно.
І мама... наўзбоччы... жывая...
Стаіць і глядзіцца ў акно.

І не, не праехацца міма
У мроіве скутым начным.
І вочы, як зоркі радзімы,
Світаюць над светам зямным.

* * *

Не выстыў Час —
ударыў музыкай
І смягне жарам на губах.
І розум свету ў гуках пружыцца:
Плыве ўладарна вечны Бах.
А потым сэрца,
быццам човен,
Павёў, ратуючы, Бетховен
Пуцінай вечнага быцця.
І ты,
пакут прасветлых повен,
Смяешся свету, як дзіця.
Яго узнесены хараламі,
Плывеш над войнамі-прагаламі.

* * *

Мой век — касмічны і зямны.
Як два крылы — зямля і неба.
У лёт галактыкі скразны
Імкне душу Жыцця патрэба.

Далёкі той пагрозны дзень,
Калі свяціла агнявое

5—302

Закатны выблісне прамень,
Панёсшы ў ім Жыццё жывое.

Хай мне не быць у той пары,
Ды вечны ўсё ж — зямлёю буду!
Жыццё Зямлі, спакон твары
Свой ток, не чуючы прысуду.

Праз часы юныя памкні
Адкрытай пошугу далечай —
Сальюцца зорныя агні
Калісь з пуцінай чалавечай.

У таямнічай шырыні,
Як іскра духу агнявая,
Прысудам зла не супыні
Свой ток, матэрыя жывая!

Мой век — касмічны і зямны.
Як два крылы — зямля і неба.
Вякі-наступнікі, яны
Дадуць Жыццю цяпла і хлеба.

І там, у юнай пекнаце
На ўскраі весняга блакіту,
Айчынным болем прарасце
Жыццём пасеянае Жыта...

## ПАМЯЦІ СЯБРА МАЛЕНСТВА

Наша лодка астыла на беразе тым,
Дзе прыліў самай буйнай у свеце вясны.
Дзве струны зазвінелі у сэрцы маім,
Дзве нязбытныя мары разбудзяць яны.

Першай, самай шчымотнай, парыўна крану
Той, заквечаны вёснамі, росны мурог,
Дзе будзіў ты гамонкай жывую вясну,
Дзе матуліну казку на сэрцы збярог.

Там імкнецца ў паднеб'е наш дзедаўскі вяз,
Месяц ноччу гняздуе ў яго галаве.
Ён, апеты усімі вятрамі не раз,
Помным духам дзядоў на сядзібе жыве.

А другою струной — смутак дум зварухну,
Час шалёны, што мчаў, як дарожны экспрэс.
І зіхотнай пабачу другую вясну,
Як збудзіла яна наш надпрыпяцкі лес!

Там, дзе млела у поймах рачная каса,
Браўся воблак пагрозны
і, пудзячы свет,
Сыпаў цэзій атрутны на вёску з каўша,
На астуджаны ў росах, густы першацвет...

* * *

Сосны мае,
Ацякаюць жывіцай камлі.
Вецер пяе
На сірочай, забытай зямлі.

Носячы пыл,
Ходзіць аблогамі дзён,
За небасхіл
Мкнецца парывіста ён.

Крыламі б'е
Па вершалінах павой.

Сосны мае,
На паласе нежывой,

Кінуты лёсам,
Крыж ваш самотны відзён.
Смутным нябёсам
Шэпчаце горкі праклён.

Там, на імшарах,
Згублена сцежка-бруя,
Ядзерным шарам
Крочу спалошліва я.

Спуднае сонца
Слепіць зямны небасхіл.
Цэзій і стронцый —
Ядзерны кружыцца пыл.

Век высакосны —
Скрухай атручаны дні.
Родныя сосны,
Вы — на праменным агні.

Цэдзіць жывіца
Слёзы свае нада мной.
Сосны, жывіце!
Сосны, не станьце труной,

Беламу свету
Чэзлай акрасай магіл.
Сеў на планету
Вейна чарнобыльскі пыл.

Свеце мой росны,
Ты — на рэнтгене скразным.
Родныя сосны,
Ўстаньце над крыкам зямным.

## ГАНАК

Рыпнеш сцёртай масніцай,
Абзавешся ў цішы.
Што маркотна прысніцца
Адзінотнай душы?

Дні і ночы на слоце —
Паразмок і прагніў.
Кот цікуе на плоце,
Дзверы хто адчыніў?

Парыжэла гардзіна,
Дух застойны, гняткі.
Печы прэліна-гліна,
З дошак лезуць цвікі.

Ты, бяда, вінавата —
Голас долі памёр.
Асірочана хата,
Асірочаны двор.

Безгалосіцы ранак.
За абложай гадоў
Ступяць цені на ганак —
Бацька й маці.
З кладоў.

Прыхінуцца к парогу —
Самы смутны начлег.
Чорны кот ім дарогу
На двары
Перабег.

## ВІШНІ

Белага мая казка дзівосная.
Вочы заплюшчу:
Б'ецца мяцеліца.
Як вы гарчыста
Недзе за вёснамі,
Недзе за вёрстамі
Бель сваю сцелеце.

Падае квецень, ветрам пабітая,
На сыпчакі,
На падвор'і сірочыя.
Падае ў душы,
Радасці збытая,
Слепіць тугою да слёз
Мае вочы.

Тут, дзе хадзіла доля-выгнанніца,
Брала паспешліва нейкія рэчы,—
Самая белая,
Мёртвая раніца,
Самы найгорычны
Сум чалавечы.

З далі адкрыюцца постаці воку,
Пройдуць прыветна па сэрцы
збалелым.
Мне не пазбыцца лёгкага кроку —
Здасца: праходзіць
Мама у белым.

## «ЦЫГАНСКАЯ ДУША!»

Ці ёсць прастор душы?
Наш век распрог павозку.
Жыў блізка ад шашы
Цыган, адзін на вёску.

З адкрытаю душой,
Ад табара адбіты
І лёткаю шашой
Пакрыўджана забыты.

Прабеглі па шашы
Падводы і машыны.
Ён смутна варушыў
Скупыя прыпаміны.

Ссівелы гладзіў чуб,
Калісьці кучаравы,
І конь цыганскі скуб
Самотна ў лузе травы.

Грымеў шалёны век,
Ўслед вабілі аблокі.
Ды лес сцяной абсек
Прастор душы шырокі.

Вірыць, гудзе шаша.
І тым, хто ўсё блукае,—
«Цыганская душа!» —
Цыган з двара гукае.

## АЕР

Узбалоткі, пабраныя раскай густой,
Зноўку памяць абыдзе мая — збудзіць дні.
І пачуе душа: смакавіты настой
Прэла цэдзяць з балота твае карані.

Збіты ў грады, ты рос — шапацеў на вятрах,
Ліст залёны і гойстры пусціўшы з вады.
І чакаў я, малы, па вясне ў вечарах,
Як праклюнецца імі балота,
Тады

Ценькі парастак кволы шукала рука
(Смак яго духавіты ў роце й цяпер).
Па-над корнем тваім парасла асака,
Смутна пудзіш душу мне, палескі аер.

На тваe карані густа цэзій палёг,
Смутна ў зоне рыкае пакінуты звер.
Сумам страты маёй, болем спудных трывог
Прарастаеш вясной на ўзбалотку, аер!

Помню, мама прыносіла пахкі снапок,
Быццам вочы, зырчэлі твае карані.
Пах над вёскаю рос, вырастаў да аблок.
Ты магілу матулі, аер, ахіні!

На спусцелай зямлі, дзе забыты асвер
Калыхае на ветры гарчыну віны,
Па-суседску з табой, мой гаючы аер,
Затравела сівыя ўзышлі палыны.

Развінае туга крылы чорнай начы,
Гасне ў свеце святло, разуменне, давер.
На асмяглых губах чалавечых гарчы
Напамінам бяды, мой палескі аер!

## ЛОТАЦЬ

Узбалоткі лясоў
Параскзеціў твой колер жаўцяны.
Колькі год я ішоў,
Як смыляць мае раны.

Расцвілі балаты
У вясновым стазвоне.
Буйна, цветам узнеслася ты
У пакінутай зоне.

Колер болю майго.
Сум пакуты маёй немінучы.
Ля цяпельца твайго
Пастаю каля прыпяцкай кручы.

Твой праменны пажар
У сінечы прадвесня разліты,
Памарокаю хмар,
Смертаноснай жудой апавіты.

Два букеты нарву
На ўзбалотку, дзе цёплая бросня.
На маю галаву
Дождж атручаны цэдзіцца росна.

Ты, раз'ятраны свет,
Дзе нейтронам разволена лётаць,
Возьмеш першы букет.
І заплача крапніцаю лотаць.

Гэта жоўтай жуды
Колер самы гарачы, праменны.
След атрутнай бяды,
Бляск сляпучы, рэнтгенны.

Ты, раз'ятраны свет,
Замуціўшы свае небасхілы,
Гэты жоўты букет
Пакладзеш на сырыя магілы.

Шчэ праменяць яны
Смертаноснай, сляпучай стыхіяй.
Шар вялізны зямны
Працінаюць наскрозь, не глухія.

Працінаючы нас,
Захінаючы ў побыце шляху,
Наш зняверany Час
Пакладуць на суровую плаху.

І мячом праваты,
Узмахнуўшы над ядзерным светам,
Зрынуць суму пласты,
Як галовы смяротным ракетам.

Два букеты нарву
На ўзбалотку, дзе цёплая бросня.
На маю галаву
Дождж атручаны цэдзіцца росна.

З выдмаў юных гадоў
Выглянь, зорка мая залатая.
Між зямных халадоў
Смутак жоўты твой след замятае.

Хліпнеш спудна вачмі,
Страпянешся, як ластаўка ў лёце.
Лотаць наша...
Вазьмі!
Я нарваў на Вялікім балоце.

Там, за выдмай гадоў,
Беззваротна, не чуючы спуду,
Ходзіць наша любоў.
Усміхніся жаўцянаму цуду.

Лотаць, грае яна
Заварожана, сонна.
Там, дзе наша вясна,—
Абрываецца чорная зона.

* * *

Вось і лета даспела.
Абляцела лістом залатым.
Памяць свету збалела,
знікла ў марыве вечным, густым.
Пакладу на далонь
ліст кляновы лясной стараны.
Палымнее агонь
напамінам азяблай вясны.
Жаўталісце пад клёнам
подых сцюжнага ветру змяце.
Крапне потам салёным
дождж абложны на скутай вярсце.
Стылай кропляю сонца
упадзе на траву, на жарству.
Сцюжнай вечнасцю сонна
разалье над зямлёй сіняву.
Згасне ў небе камета —
зорнай ночы жывая бруя.
Згасла спелае лета.
Гасне светлая памяць мая.
Век стары на зыходзе.
Спіць у семі зямным юны век.

Злучыць лёткa стагоддзі
плынь пакутных, забруджаных рэк.
Удыхнуўшы ў дваццатым,
дваццаць першы прывечу: здароў!
З плечаў зрынуўшы атам,
загрымі жалудамі дуброў!
Светам пройдзешся белым,
размінуўшыся з лёсам крутым.
Вось і лета даспела.
Абляцела лістом залатым.

* * *

Дзяды — Яўхім, Раман, Варывон,
Святло маіх першых зямных дзён
Позіркам вашым разліта.
Бабулі — Аксіння, Адарка, Антося,
Сонечна сцежцы маёй вілося
У ваша высокае жыта.

* * *

Возера успененыя хвалі —
Пад вятрамі спудлівы разбег —
Да зары світальнай калыхалі
Зорак ценькіх вогненны начлег.

І здалося: у таемным плёсе
Зерні іх святліста параслі.
Вогнікамі возера зайшлося,
Ноч чаруе ў суцемках зямлі.

І святлу адкрытая стыхія,
Поўная таемнае красы —
Абступілі самыя глухія
З вечнасці сусветнай палюсы.

На адным —
гарачае дыханне
Юных зор у вогненным сяйве.
На другім —
блакітнае світанне
Агнякрыла дыхае-жыве.

Адшукаўшы сіні плёс планеты,
Зорыста кульнуліся з вышы
Дзве стыхіі,
Два жывых сусветы,
І ў маёй змясціліся душы.

* * *

Віхурны лёт зімы абложнай,
Скрыпіць прамёрзлы снежны мол.
Трымціць абшар былінкай кожнай,
І іней падае на дол.

Вятрам адкрытае паднеб'е
Прадзьмута сіверам скразным.
Празяблых зор мільгае зрэб'е
Над светам стоеным начным.

Нібыта ў ранішнія высі,
Куды вятры шумяць-ляцяць,
Снягі зямныя падняліся
І так мільгаюць, так зіхцяць.

* * *

Пад музыку аблажнага дажджу
У нашым спелым салаўіным леце,
Каханая, табе адной скажу,
Што чула сэрца ў гэтым зорным свеце.

Падай мне з вёснаў белую руку.
Якія зоры ў вышы заняліся!
Над імі, на зялёным астраўку,
У травах сцежкі нашыя зліліся.

Мы крочылі абранаю, адной,
І па-зямному светла саграшылі.
Вякі пахмура гаслі за спіной,
Другіх вякоў нячутна лёс вяршылі.

Па волі іх няўмольнай праваты,
Аддаўшы сум скразной міжзорнай
ночы,
Каханая, пад сэрцам несла ты
Яшчэ нязнанай будучыні вочы.

* * *

Апошні водсвет летняе зары,
Калі яшчэ барвее свежа неба.
Зямля мая, з душой пагавары,—
Расце ў душы высокая патрэба!

Ты звечарэла горнеш лёгкі сум —
Зліваюцца і шыр зямлі, і выша.

І ён, Сусвет няходжаны, калыша
Стыхію непачутых, вольных дум.

Сягае дух у зоркавы міраж,
Душа ўцінае зрок у звабы шыры.
Пачуць мне дай, Зямля, спеў небнай
Ліры!
Прысудна не скажы мне:
Прахам ляж!
Агністы водсвет летняе зары...
Сусвет, душу маю з агню
Твары...

## ВОСЕНЬ

Усё было:
І квецень, і плады.
Маркотны дождж
Лісця астачу змые.
Глядзяць асірацелыя сады,
Нібыта век гушкаліся нямыя.
Сказалі ўсё.
І сонца аддалі.
Бярэцца морак,
Гусне на зямлі.
Ды вось прамень,
Свавольны, адзінокі,
Сарвецца-блісне
З чорнай вышыні.
І зноў душа
Вясны прадчуе крокі,
І сэрца
Страпянецца ў цішыні.

## ЖАНЧЫНА

Здалося: жыцця палавіна
Упала, як звон з ледзяша.
Ды вось: пазваніла жанчына,
І зноў уваскрэсла душа.

У сцюжнай зімы на зыходзе,
Чужая, дзівачка, яна
З букецікам сціплым прыходзіць
Сам-насам з завеяй, адна.

Я ведаю: збегла ад мужа,
Пакінула вернасці дах.
І вуснаў спакусная ружа
Цвіце на зямных халадах.

І ціха, на крылах самоты,
Мкне памяць за ёю услед.
І хвілю забытай пяшчоты
Ёй дорыць знявераны свет.

* * *

Помніш, асляпіла бліскавіца
Вочы і пранёсся грому спеў?
Губ тваіх успудлівых напіцца
За адно імгненне я паспеў.

У стыхіі — з вогненнай мяжою,
Што жагнала душы, як магла,
Ты ў імгненне, хто была чужою,
Самаю адданай мне была.

Ты — чужая. Сэрцу ж не напіцца
Помнага, крынічнага святла.
Помніш, як мігала бліскавіца?
Змокла сцежка ў жыце ля сяла.

Як грымотна, спудліва на свеце.
Смерць шугае зданню крумкача.
Хто цябе затуліць?
Згорклы вецер
Прыпадае да майго пляча.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ТАБЕ

Гушкае ноч у голлі салаўя.
Адкуль агонь, што зорна палымнее?
Лік Вечнасці. Шалёная бруя.
І зноўку ноч, што ройна зоркі сее.
Ноч даўняе, забытае любві,
Агнём займіся ў выстылай крыві!

Шапчы мне зноў — захмелена і страсна
Аб тым, што юнай ведама душы.
Тваім вачам у скутым свеце ясна.
О, міг любві, не адпалай дачасна.
Нібы касцёр, пачуцці ўзварушы!

## НАЧНАЯ КУПАЛЬШЧЫЦА

Зябкай, смуглай шчакой
Ноч да зямлі прападзе.
Зноўку цячэ ракой
Зорны сусвет.

У вадзе
Глыбака, да Арыёна,
З шыры зямных нябёс
Здзіўлена,
зялёна,
шалёна
Вечнасць кульнецца ў плёс.
З прыцемкаў берага-мола,
Быццам адна з камет,
Ты падаеш голая,
Пудзіш цэлы сусвет.
Ён расцякаецца, зорны,
На асколкі разбіты.
Зорак губляюцца зёрны,
Блытаюцца арбіты.
Я, купальшчыца, чую,
Як спудны хаос
Грудзі твае цалуе,
Сноп ільняных валос.
Сеючы землятрусы,
Зорны віхор кіпіць.
Ці прамінеш спакусы
Вуснамі зоркі піць?
Б'юцца голыя ногі,
Плынь адбірае цябе.
Месяца вострыя рогі
Рэжуцца на ілбе.
Спрытна, узмах за ўзмахам,
Ўскінуўшы галаву,
Спуджаным
Млечным Шляхам
Я наўздагон плыву.
Сведка — ўзбярэжны морак
Слепа глядзіць у ваду.
Смутна мне: паміж зорак
Я цябе ці знайду?

З рэўнасцю ў далях чую
Пырскаў салодкі звон.
Вусны твае цалуе
Вогненны Арыён.
Думкі адчаем пудзіць,
Косы русалкам ўе,
Белыя голыя грудзі
Соладка, хмельна п'е.

* * *

Калі ў накрапістым тумане
Затрубяць смутна жураўлі,
Маё астатняе змярканне,
Яе дасвецце запалі!

Агніста, стоена, журліва
На гронах выспелых калін
Часоў маіх зямное мліва
Змахне крылом самотны клін.

І я сыду пуцінай млечнай
У бліках зорнага святла.
Адно прашу, каб толькі вечнай
Яна, любоў мая, была.

* * *

Жаўтапёсая водмель ракі.
Валуны каламуцяць хвалі.
Замутнёна плылі вякі,
Цалавалі іх, шліфавалі.

Месяц выгляне з-за ляска,
Рэўнасць барваю завіруе:
Як трапётка плыве рака
І пастылы валун цалуе.

* * *

Тут мой край...
Пад сонцам ярым,
Пад залевай даўніны.
Дзе ні глянь — адны выгары,
Згубы прывіды адны.

На крутой пуціне веку
Попел вогнішча асеў.
Болю, слёз людскіх і здзеку
Самы рупны — тут засеў.

Тут сівых эпох стазвоны
Захлынуліся ў крыві.
Тут згубілі сцяг тэўтоны,
Меч пакінулі крывы.

Ды з зямной быліннай гліны
Пад аблажаю нябёс
Ўстала мара з дамавіны,
Пагукала новы лёс,

Засвітала бела, руса,
Пачуцця збудзіла грай.
Горкі вырай беларуса.
Белай мроі горды край.

* * *

Над Віліяй рабінавая ноч,
Купаюцца ўскалыхі агнявыя
У люстры вод
і ў зрэнках нашых воч
І падаюць на сосны страявыя.

Каханая, агнём зямных стыхій
Сярод начы заспетыя, прымаем
Увесь сусвет, агромністы, нічый,
Які прапах наскрозь вільготным маем.

Згубілася на шыры агнявой
Высокіх душ зіхотнае свячэнне.
Красуй, ляці галактыкай жывой,
Любоў мая — сусвету прызначэнне!

Збудзіўшы свет, высокім небам кроч,
Мінаючы будзённасці граніцы.
Над Віліяй — рабінавая ноч,
Святая ноч вялікай таямніцы.

* * *

Хто пасее тое зерне
(Поле — потная ралля),
Што душы спатолю верне,
Ўзыдзе песняй з мазаля?

Хто зачэрпне жменяй поўнай
Слова-золата з сяўні,
Што над цішай безназоўнай
Разгушкае нашы дні?

Сцюжна матчынаму полю,
Вузкім стаў засеву клін.
Аплятае нашу долю
Густа зрошаны палын.

## БЕЛАРУСЬ

З якіх цянёт гісторыі сівой
Ўзышоў народ душой прачысты твой,
О Беларусь! Якое легла жыта
На ніве непаўторнай, агнявой,—
Сягоння свету беламу скажы ты.

Ты не счакала небнае крупы.
Як малацілі-ляскалі цапы,
Крывёю заплывалі Курапаты.
Як сеяў лёс, на радасці скупы,
На полі долі незлічона траты.

Як зеўрала змяістая мяжа,
Рэпрэсій ліпла чорная імжа,
Як над табой цягнулі руку згоды
Да тых, хто свет патопіць у крыжах,
Крывёй залье збалелыя народы.

Як уставала сонца з туманоў,
Як сцятым шэптам працінала зноў
Твае, бядой аглушаныя, вушы.
На пікі ўсіх айчынных курганоў
Плявалі як з вышы твае чынушы.

Як зглухла мова спеўная твая,
Змутнела ў згубе Прыпяці бруя,
Дажджы — наскрозь — цярусяць кіслатою.
Як песня захлынаецца мая
Няўцешліва салёнай кропляй тою.

Як чынна і прывычна — дзень пры дні —
У бюракрачай, з'еднай тупатні
Пра дабрабыт твой думалі надзённы,
Пасеяўшы бяздушша камяні,
Не помнячы сыноў тваіх імёны.

Як будавалі лад на свой капыл,
Аддаўшы ўзлёт ілжэдухоўных сіл,
Да згоднай згубы сэрца прыручалі.
Паэты як над памяццю магіл
Услужліва аб тым твае маўчалі.

Устаўшы з пракаветнай баразны,
Пра новы дзень твой думаюць сыны.
Дай кожнаму спатоллівую сілу,
Збудзі іх думы, летуценні, сны,
Забі сваю магчымую магілу,
О Беларусь!

## МАЁ СОНЦА

Сцінае дыханне
Разгалоссе трагедый.
Усе яны,
Зеўрачы акамянелым страхам,

Выплываюць з глыбіняў
Памяці чалавецтва,
Кажуць адно:
Гэта твая зямля,
Твая воля і доля,
Тваё сонца!..

Не — і тысячу не!
На маім небе сонца тых,
У чыіх зрэнках астыг,
Закаціўся
Яго промень жывы
На палях усіх зямных
Сечаў...

Гэта твая зямля,
Твая воля і доля!
Не — і тысячу не!
Тых зямля пад нагамі,
Чые магілы,
Уцятыя ў дзірваны забыцця,
Грэюць яе чорныя грудзі...

Я і сам
Аднойчы
Падамся следам за імі,
Нахадзіўшыся пыльнымі бальшакамі
Жыцця,
Сатварыўшы дзеі свае,
Даўшы ім
Зямныя імёны.

І тады,
Толькі тады,
Устане над гэтай зямлёй
Маё сонца...

## БЕЛАЯ ПАМЯЦЬ

Балада аднае страты

Чорная хмара
легла на сонца дыск,
Ён,
быццам сцёрты мядзяк,
мутнее.
Памяць мая,
Прачынаюся дзе я?!
Што мяне тузае —
Згуба, Надзея?
З прорвы начы
Моташны віск...

Гэта прыкута сэрца маё
Да аблачын,
што паснулі над полем,
Да яблынь і груш,
што уздрыгваюць голлем,
Да пыльных дарог
і нямых ручаёў.
Тут, у асадзе глухой цішыні,
Неба кідае промень
смяротны.
Зумка астатняй пчалою звініць
Шлях беззваротны.

Поплаў...
Рамонкаў рассыпана бель.
Сажалка...
Ў росах віхляе сцяжына.
Выйшла з пустым,
перастрэла дзяўчына,
Стогне над лёсам яе журавель.

Мёртвая вёска.
І толькі яна
Быццам на свеце,
ў сусвеце — адна.

Белая плацце ліжа прамень,
Смуглыя плечы жарка цалуе.
Гэткай красою Жыццё ахвяруе?!
Мёртва навокал займаецца дзень.
Плёскае ў вёдры Жывая Вада,
Вочы —
штурхаюць адчайна аблокі.
Звонкія, лёгкія дзеўчыны крокі.
Следам за ёю —
ступае бяда.
Хмарывам небным
ідзе напрасткі,
Смуглыя рукі,
грудзі кранае.
Вочы
агністай тугою займае,
Зырка ірдзяцца,
нібы вугалькі.
Памяць мая за каханай ступае.

Ты засталася ў зоне бяды,
Мне не дазвацца —
не ўбачыць звароту...
Казка мая,
адцвітаюць сады...
Нашы сады атрасаюць пяшчоту
Моўчкі,
на стрэхі хацін,
на клады
І на сувоі
калючага дроту.

Смутнаю зонай —
стратай вясны —
Крочыш,
і я, ашаломлены, чую:
Ўздрыгвае крохка
золак зямны.
Як і ўтрымае ношу такую —
Поўныя вёдры Жывое Вады.
Вось ты направа лінула —
клады
Заварушыліся чорна крыжамі,
Ўсталі, атрэслі жвір дбала дзяды,
Глянулі хмура на хмары бяды,
Думна абмовілі:
— Што гэта з намі?

Ты узмахнула левай рукой —
Вёскі смяротны сышоў супакой,
Гулкая ўздрыгнула ўсцяж гамана,
Голас дзіцячы прарэзаў прастор,
Бліснула даўняй пяшчотай вясна,
Вырасла цветам і лісцем да зор.
Хто ты?
Астанне...
Каханне маё...
Сілу якую ты маеш, скажы?
Крочыш праз свет, дзе бяды вастрыё,
Рушыш пагрозы жахотнай крыжы.

Будзе твой шлях —
палыновы гарчак,
Вусны асмужыць,
пылам кране,
Мёртвы,
магільны,
атрутны сыпчак

Ўзыдзе над ім —
адбярэ па вясне
Белую постаць жывую тваю;
Быццам сальешся з беллю бяроз...
Толькі зіхотныя крыльцы стракоз...
Я між пустыні,
адзін я, стаю.

Белая памяць...
Прывід-міраж
Мякка прайшоўся за небасхіл,
Гойстра мне ў вочы кінуўшы пыл
Ядзернай згубы.
Боязна ляж,
Век мой суровы,
На травы магіл.
Глянеш направа —
сівы палын,
Глянеш налева —
шызы быльнёг.
Трубіць зазыўна з вечнасці клін
Над даўжынёй і пустэчай дарог.
Кажа душы: — Зноўку адзін
Будзіш пагаслага шчасця парог.

Раптам
крывавае вока начы —
Поўня —
прарэжа хмар чарнату,
Смутна прывеціць зямлі пустату,
Кіне праменні —
ад хáцін ключы;
Новыя цені зямную вярсту
Пройдуць выгнальна
і рушаць услед
Мяккаму бляску ў марыве хмар.

Белая постаць каханай...
Букет
Юных, душою не страчаных мар.
Скрутна гартае
                    вусцішны свет
Хіжых трагедый зямных
                              каляндар.

Белая памяць!
                    Промень быцця,
Смеху і шчасця, спатолі дваіх!
Гэта шуготкі агонь пачуцця,
Гэта вар'яцкі трагедыі слых.
Бела ступае дзяўчынка...
                              дзіця...
Белая кроў...
Для стагоддзяў...
Для іх...

* * *

Дарожны смог. І белы сум бяроз.
Прадзьмі наскрозь пуціну свету, вецер!
Бярозам родным выпаў горкі лёс:
Гушкаць нямогла высахлае веццe.

Віруе ў гонцы моташнай шаша.
І кроюць цемру ўсхліпы светлавыя.
Бярозы ў смогу. Ледзь яны жывыя.
І меркне ўслед, сцінаецца душа.

Пралёг бальшак ля хаты той, дзе рос.
Куды нясеш мяне, выгнання лёс?

* * *

Пакланяюся агню,
Хай гарыць, як Бога вока.
Я агню забараню
З-пад рукіісці далёка.

Пакланяюся вадзе,
Хай журчыць крыніц лагодай.
Я вадзе скажу: нідзе
Не прабудзь ліхой пагодай.

Пакланяюся лясам,
Хай плыве іх шум былінны.
Прыйдзе час: адпусціць сам
Лес сасну для дамавіны...

Нат у вечнасці на дне
Смуты сэрца не спазнае —
Будзеш грэць цяплом мяне
Ты, гармонія зямная.

* * *

Не хціваму д'яблу, не Богу
Прадайце душу задарма.
Душы падаруйце дарогу,
Трывогу — спазнае сама.

Не будзе закута жабрача
Гібець на зямным бальшаку.
Прачулена, шчыра заплача,
Пажаўшы сваё на вяку.

А згаснуць яе небасхілы,
Парвецца дыхання струна,—
Не ў лона сырое магілы,
У неба памкнецца яна.

* * *

Я прыходжу на спатканні з тымі,
Хто не прыйдзе,— смерць не дакарай!
Днямі сіратлівымі, пустымі
Спее на кладах іх траўны рай.

Гэта мне да іх, былых, патрэба.
Варушу бясконцыя іх сны,
Каб вышэй глядзела свету неба,
Каб далей віднеў бальшак зямны.

* * *

У лесе дол — ігліцы пацяруха,
Сыпучы жвір і мох ссівелы скрозь.
Далёкі гук спалошна ловіць вуха,
Нібы рыпіць сама зямная вось.

У нетры бору — соснаў каланады,
Цягучы шум у кронах — вышыня!
І пах смалы — агуслы пах прынадны
Жывіцаю напоенага дня.

Нязводным будзь, трасі зялёным чубам
Пад небам ясным, мой жывічны бор!

Ступае век драпежным лесарубам.
Міні красу, занесены тапор!

У спешцы адмахаўшы кіламетры,
Прымаю неруш, як гаючы лек,
Што зубр калісь — у пракаветнай нетры,
Стаю з нязгодай страты —
Чалавек.

## ПАМЯЦІ СЯБРОЎ ДЗЯЦІНСТВА

*У. Дашука,*
*А. Палуяна,*
*У. Казака,*
*У. Бачышчы*

Сябры мае сыходзяць па адным,
І сполашней міргае Млечны Шлях.
Іх боль пад небам выстылым зямным
Маркотай абзавецца ў жураўлях.

Аглухне рэха, страціцца ў бары,
Дзе трунна хвоі сталі —
Дзе чыя?
Сябры мае,
Сышоўшыя сябры!
Сыходны крок пакутна чую я.

Якую долю кіне скрутны лёс?
З якой хваіны вычаша труну?
Сябры мае,
Пад шатамі нябёс
На колькі вашы сцежкі працягну?

У памяці — скупыя ліхтары,
Іх ззяблы бляск гайдаецца ўначы.
Я поўны ім. І мне лягчэй, сябры,
Сябе пачуць,
Зямлёю ідучы.

## ПАМЯЦІ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

Трагедый зямных спасціжэнне
На хвалі скразной глухаты.
Як горка і пуста мне, Жэня.
Душа захлынаецца —
Ты!..

Абудзяцца сны снегавыя
У далечы дня агнявой.
Я нёс табе кветкі
Жывыя.
Астатнія кветкі...
Жывой.

Забыта, ніпто не падкажа,
Ляжалі яны, гваздзікі.
Сукенка — прачорная сажа!
І позірк —
цягучы, гнняткі.

Згадаў — і душа схаладзела
На ўскраі жахотнай бяды.
З якой ты далечы глядзела
І сумам гукала — куды?

На скрутнай астатняй дарозе
Вініліся душамі мы.
Зардзела ярчэй на марозе,
Крывяней каліна зімы.

## ДЗЯДЫ

На могілках, дзе жухлая трава,
З журбінай мёртвых сёння памянём.
Сыпучая магільная жарства
Сагрэта чуйнай памяці агнём.

Крывава ўзбухлі гронкі арабін,
І ветру лёт, як пошуг вечных душ.
Ляжаць дзяды, паспеўшы адрабіць,
Пусціўшы з рук
Жыцця трывучы гуж.

Іх доўгі сон жальбою зварухну,
У век пагроз рукой асцерагу
Над кожным пракаветную сасну,
Зару і птушку, слоту і пургу...

У пустаце пагаслых іхніх дзён
Тут забыцця быльнёг не парасце.
Мне свет зямны на шмат шырэй відзён
У продкаў чалавечнай праваце.

* * *

Яблыня на селішчы забытым,
Горкія, здзічэлыя плады!
Не вятры, а крыламі нябыту
Тут шугаюць сполашна гады.

Беззваротна, ценька праглядае
Ява дзён з-за чэпкага быльля:
Крочыла жанчына маладая,
Да грудзей хінула немаўля.

Падалося тое...
　　　　　　　　Ападае
Плод астатні з дзікага галля.

Апусцела-ціха ў наваколлі,
Толькі з ветрам шэпчацца быллё.
Не пачуе яблыня ніколі,
Як кугае-плача немаўлё.

Урaслі ў зямлю, аселі сцены,
Вокны — амярцвелыя крыжы.
Яблыня, мой сведка задуменны,
Гаснуць дзён далёкіх міражы...

Крык маленства,
　　　　　　　　зрынуўшы рэнтгены,
Шлях зваротны сэрцу пакажы!

* * *

Высокая восень, у кронах бяроз
Шапочаш лісцём залатым.
Памножыўшы смутак на зболены лёс,
Ты ценем праходзіш густым.

Прачыстая восень, з лясной цішыні
Вільготным узмахам крыла
Хаця б на імгненне пяшчоту вярні,
Што вечнай, здалося, была.

Ужо не даехаць, ужо не дайсці —
Здарожаны ўляжацца свет.
Ажухла багата ў халодным лісці
Нязбытных надзей і прыкмет.

І, чуючы вечную песню тваю,
Пад ношай набытых гадоў
Я ў одуме горкім
на ўскраі стаю
Дарог, летуценняў, слядоў.

## МАТЧЫНА ПРОСЬБА

Раніца пазірала
Барвай густой з нябёс.
Месца ты выбірала
Вечнае
Між бяроз.

Ціха лісцём спадала
Голлейка на крыжы.

— Задаўна прыглядала!
Тут мяне палажы...

І, як пакуты вырак,
Голас крануў душу:
— Ўцеха мая — ты вырас!
Блізка мой час... Прашу...

Хмельна буяніць лета.
Чуў, як раса дрыжыць.
Просьба? Пустое гэта!
Маме шчэ жыць ды жыць!

Небу сказаў: не скора
Зрынешся, дзень бяды!
Толькі гукнула гора,
Мама, цябе сюды.

Ноч далічыла зоркі,
Знікла ў чужых палях.
Боль мой няўцешна горкі —
Мамін астатні шлях.

Ў бессанях ім прастую,
Каля труны стаю.
Чую я мама, чую
Просьбу тваю.

Ёй, як жадала, збыцца
Чорны пасобіў лёс.
Хай табе мякка спіцца
Ў цішы сваіх бяроз.

Згубна ў абшарах сее
Стронцый хмурын сувой.

Горкай слязой расее
Шлях беззваротны твой.

Бачу у сне збалелым,
Самым няўцешным сне:
Мама, ідзеш у белым,
Шэпчаш з жальбою мне:

— Пуста як кінуць вокам.
Чорна. Наўсцяж — драты.
Ўцеха мая,— далёка
Сёння адгэтуль ты...

* * *

Тут з кропам бульба маладая
Віруе крута ў сагане.
З дарогі мама выглядае
Запозна вечарам мяне.

І кот ля ног мурлыча, трэцца...
Мне не даехаць, не дайсці.
І толькі — памяці ўзгарэцца,
І толькі — болю прарасці...

* * *

Сонечны зайчык, ускоч на далонь,
Сэрцам — у дальнія вёсны зірну:
Мама гадуе ў печы агонь.
...Хата пустая. Двор з палыну.

* * *

Чмяліныя соты ў глыбокай траве,
На поплаве росы —
як кропелькі мёду.
А голас матулін дадому заве,
І нехаця крочыш, каўтнуўшы нязгоду.

І свет пад нагамі — з расы і травы,
У гудзе чмяліным,
У зуме пчаліным.
І выша нябёсаў — прыліў сінявы,
І ліпеня роздых пад крыллем бусліным.

Дадому вяртацца —
Цяжкая хада,
Калі за аселіцай ліпа мядуе,
І пахнуць налівы ў гарачых садах,
І шчодрае сонца цяпла не шкадуе.

Завабліва кліча імчаць наўздагон
Пяшчотны вятрыска — вільготны і свежы.
І сэрца, узятае даллю ў палон,
Лунае, як бусел, у сінім бязмежжы.

— Ты вернешся, неслух?! —
Гукае здаля
Пагрозлівы голас.
І крочыш ціхмяна.
І дражніш на кветцы гарэзу-чмяля,
І зумкае той за спіной узлавана.

...Ступаю сцярожка. Прымяты мурог.
Вяртаюся, мама, на голас слухмяна.
Падворак аплёў адзічэлы быльнёг,
І сонца над хатай — крывавая рана.

Мне выпала ў далях завабна блукаць,
Узносячы гімны жыцця прыгажосці.
О як ты цярпліва умела чакаць
На гэтым, разгорнутым смерцю, пагосце!

Прашэпчуць пад ветрам быльнёг ды палын
Аб ростані скрушнай,
Дзе хаты — нямыя.
І зжуранай восені вырайны клін
Дажджамі атрутнае неба умые...

## ДЗЬМУХАВЕЦ

Жарка, жоўта уквечаны лёг паплавец
У пакінутай вёскі маёй на віду.
Як праменьчык вясны, заірдзеў дзьмухавец —
На сцябліне калыша, расстайнік, бяду.

Завяршаецца лёсу гарэністы круг:
Гул шчаслівай пары і нямота жытла.
Дзьмухавец, мой адзіны прыветлівы друг,
Колькі дорыш вачам трапяткога святла!

Я світаю душой у далёкай пары,
Што асмужыў, панёс назаўжды час-плывец.
Чую голас матулін жывы на двары,
Бачу сябра жывога ля груш, дзьмухавец.

І няма там, у вёснах, жахотнай слаты,
І праменяць шчасліва, жаўцяна яны.
Не пагас, не адцвіў, дзьмухавец, яшчэ ты,
Не пасеяў між траў белы пух сівізны.

* * *

Што ацалела? Могілкі. Грудок.
І немата — нязбытная, скразная.
І ты — выгнання скрушнага хадок.
Каго ў табе на сцежках тут прызнае
Жыццё? Яго абсечаны вітох,
Яно прагорклай памяццю лунае.

Здалося: павузелі небасхілы,
Ажухлі бэзу росныя кусты.
З якой журбой ад матчынай магілы
Глядзіш у свет празяблы і пусты.
Тугі расстайнай ядзерныя крылы.
Бліскота рос...
І поле немаці...

Два воблакі над вулкаю ўгары.
Куды яны, якой пуцінай рушаць?
І чым твой свет раздольны зацярушаць?
Што шэпчуць ім залётныя вятры?
Бясконцы свет...
Стаю. І слёзы душаць.
Пад крылы, сум, Айчыну не бяры!

## ВЫГНАННЕ

У покрыве ночы самотна яны
Ступілі на долі азмрочаны шлях,
Пакінуўшы ў полі цяпло баразны,
Панёсшы зямное цяпло ў мазалях.

Пуцінай выгнання — да ўтомы душы
Ім крочыць і крочыць ад лёсу наўзбоч.

Ім памяці гойнай касцёр варушыць,
Адчаем сляпіць зледзянелую ноч.

Як жорстка і люта дарогай зямной
Вядзе іх, бяздомных, абрынуты здзек.
Як хіжа і глуха маўчыць за спіной
Іх болем абпоены ядзерны век.

І там, дзе аблокаў зіхоцінца бель,
Над краем выгнання чароды вядзе,
Пратрубіць астатняй журбой журавель —
І сэрца балесна ўзарвецца ў хадзе.

* * *

Даруй мне, Слова, што журбой
З маёе ласкі набрыняла,
Што летуценнаю гульбой
З табою цешыўся замала.

Збалелай памяццю гукне
Мой край. Пагляне век сурова.
Праз белы свет вядзеш мяне,
Бядой запаленае Слова.

Гаркотай поенае, ты
Шукаеш ранішнія сілы
У гневе чутай праваты,
У свеце, шчодрым на магілы.

Ты вырастала з нематы
Быццё майго і горна спела,
Рвучы Чарнобыля драты,
Часцей крычала, а не пела.

## СЯБРАМ

Сябры мае — у кожнага свой боль,
За кожным кут, жыццём падараваны,
Тут песні вашай вечная юдоль
І дзень, зашчодра ёй узгадаваны.

Туды з пахмурых, шэрых камяніц
На выпас слова
ноччу рушаць душы,
Забраць усё да прамянёў-драбніц
І свет тварыць — разветраны, відушчы.

З валожынскай курганнай стараны,
З-пад Клецка, Івацэвіч, Наднямоння
Мне жаваранкі небныя чутны,
Іх чысты спеў кране маё бяссонне.

І на шляху, што блізка нас вядзе,
Я чую вас з пакутаю, збалела,
Адно пазнаўшы ў горычнай жудзе:
Майго Палесся неба апусцела.

Паранены Чарнобылем раён
Нядолі песняй сёння знакаміты.
Раскроены калючым дротам ён.
Там сумам захлынаюцца блакіты.

Там зглухлі ўсе ў зарэччы салаўі,
А продкі спяць на ядзернай пасцелі.
Сябры, малю, каб вашыя краі
Пад небам перуновым ацалелі.

## БАРШЧОЎКА

*А. М. Сцепаненку*

Як блізка падступаецца прагрэс!
І што ў руках?
Магільная рыдлёўка...
Над Прыпяццю
зялёная Баршчоўка
За восем кіламетраў ад АЭС.
Наўкруг — лугі.
І пракаветны лес.

Тут хвалі сіньку плёскала вясло,
Рука —
сяўбой зямлю спадзеўна грэла.
Туманам ранне золкае шарэла,
І мокла жураўлінае крыло.
Жыццё гуло...
Жыццё наўсцяж гарэла...

Тут эпахальных не было падзей,
Былі радзіны і былі хаўтуры.
Праводзіў позірк воч старых пахмуры.
Цяжэлі рукі цвёрдыя людзей.
Ды ў памяці
вайны жылі віхуры.

...Уздрыгнуў ноччу пракаветны лес.
І воблак белы, як світанне, вырас,
Як згубы кліч,
як смерці чорнай вырак,
За восем кіламетраў —
над АЭС.
Ён рос і рос
і накрап сеяў спрэс.

А тут — душа закутая ў спакой —
Хадзілі лугам, плавалі ракой,
На пашу гналі вуліцай кароў,
Садзілі соткі
і... бялілі кроў.
І думалі: які ён, той прагрэс?
Ў глыбінцы свету...
Побач ля АЭС.

## ДЫШЦІХ ЧАКАННЯ

### 1. ВЁСКА

Не паверу: ніхто не жыве
У хатах тваіх астыглых.
Крокі зноў чую — гэта
Вяртаюцца дадому з кладоў
Дзяды.
(Мулка ў магілах ім стала,
Гукаюць мёртвыя хаты.)
Бабуля мая Аксіння
Гоніць перад сабой
Чароды аблок —
З белага небнага раю.
Бацька з касой на плячы
(Вырваў з рук чорнае смерці)
Ідзе поплавам.
Маці...
З чым, мама, ты крочыш
На гэтым перасяленні памяці?
Што ў руках? Калыска
Маленькай памерлай дачкі...

Жывіце!
Гэта вашая вёска.
Паспяшаліся выпісаць вас
У сельсавеце.
Я не магу бачыць вёску пустою —
Жывіце!

...Час пашырае жылплошчу
Смерці.

2. ПРЫПЫНАК

Каторую ноч
Я выходжу на прыпынак аглухлы
За вёску і бачу адно:
Кроячы фарамі цемрадзь,
Гойдаючы на шыбінах водсветы,
Паяўляюцца з лясістай смугі
Аўтобусы,
І яркі агонь
Высвечвае шыльды-пазнакі:
«Чамкоў — Хойнікі»,
«Уласы — Хойнікі»,
«Масаны — Хойнікі»,
«Пагоннае — Хойнікі»,
«Аравічы — Хойнікі»...

Яны скрыпуча тармозяць
На прыпынку сярэдначы,
І ўсё,
Гарбацячыся ў цемрыве ночы,
Спалошліва мкнецца ў раскрытыя дзверы —
Хаты і дрэвы,
Калодзежныя жураўлі і хмары,
Тарфяныя бугры
І ржавая каналаў вада...

Пусткаю чорнай
Робіцца Бабчын.

Аўтобусы,
Пускаючы дым,
Далей імкнуцца.
Ім багата каго падабраць
На гэтай дарозе...
А я адзін застаюся
Сярэдначы
Пасярод самай жудотнай
Пустыні свету,
Каб дачакацца,
Калі ж яны
Рушаць назад
З перавернутымі шыльдамі:
«Хойнікі — Чамкоў»,
«Хойнікі — Уласы»,
«Хойнікі — Масаны»,
«Хойнікі — Пагоннае»,
«Хойнікі — Аравічы»...
Калі высадзяць
І на гэтым прыпынку
Усё,
Што забралі, павезлі.

## АСТАТНІ НАЧЛЕГ

Я пішу гэты сум
У куце пустой хаты
На пакінутай сястрою
Маёй школьнай тумбачцы,
Пры хліпкай свечцы.
У хаце,

Тут,
Дзе малы
Сцінаўся да колкіх дрыжыкаў,
Калі ліпла да вокнаў
Зубатая цемрадзь,
Накліканая казкамі
Бабулі Антосі,
Кралася зданямі
Ведзьмаў і лесавікоў...

Я начую
У хаце
У зоне.
Да вокнаў,
Як і тады,
У маленстве,
Прыпала цемра начы,
І мая свечка,
Пусціўшы «бараду» парафіну,
Варушыць на сценах
Водсветы памяці:
То быццам бацькавы плечы,
То пасма бабулі Антосі,
То матчын локаць...

Яны, хто не здолеў
Падацца-паехаць адсюль,
Прыйшлі на начлег
У хату —
Сведкі болю майго.

...Гусне,
Зыбаецца за неабарванымі фіранкамі
Цемрыва ночы.
Я ведаю:
Там, за парогам хаты,

Цемра моцна заплюшчыла
Вочы Жыцця...
Там ані голасу.
Наплывае, грозіцца
Цемрань,
Гатовая заглынуць
І гэты маленькі
Драбочак святла...

## ЗЕМЛЯКАМ

Расселеныя ў розныя куткі
Вясны жахотнай незваротным лёсам,
Нясеце душ самоту, землякі,
Ў мальбе чужым павыстылым нябёсам.

На промнях смертаносных не згарэў
Уздых вятрысты адзінотных дрэў
І поле векавое не астыла.
Падворак хаты сумам забурэў,
Глядзяцца сцены родныя пахіла.

Я вуліцай пустэльнаю іду,
Я слухаю жахотную бяду,
Выгнанніцкае долі чую крокі.
Здаецца: пахіснуся, упаду.
Накрыюць белым саванам аблокі.

Як важка чуць бязмоўе цішыні,
Дзе ўзмах крыла ў крынічнай вышыні,
Дзе ластаўкі наіўна-ценькі шчэбет.
Тут лёг наўкруг,
укрыўшы карані,
Асфальт прачорны і халодны шчэбень.

Я пастаю ля вашых сумных хат
На ветравеі ўсіх айчынных страт,—
Пачую, як мной страчана багата.
Дык вось яна: з усіх зямных адплат
Скразнога зла ліхвярная адплата.

Калі гады, нітуючы вякі,
Нагамі ступяць зноў на бальшакі
Дазволена-спалошнага вяртання,
Вы прыйдзеце, я веру, землякі,
Да родных ніў з бязмоўнага кургання.

* * *

*І. П. Мележу*

Пудка шапоча на ветры аер,
Спее атрута ў зямным умалоце.
Як жа вам чуецца ў свеце цяпер,
Людзі мае, на палескім балоце?

Чорнае неба сеяла скрозь
Мікрачасцінкі, нябачныя воку.
Вёсак аседласць — вось яна, вось!
Белая згуба ад іх — на паўкроку.

Як жа сабраць вам дарожны хатуль,
Сэрцам знайсці развітальныя сілы,
Каб у выгнанні — далёка адсюль —
Помніць адно пра вяртанне ў магілы?

Як жа забыцца і рушыць, калі
Неба і воблакі быццам бы тыя,
Тыя прадвеснем лятуць жураўлі,
Тыя ж крыжы на магілах святыя?

Як жа паверыць: жахотай-смугой
Доля сірочая вёсны гартае,
Самай прачорнай, драпежнай шугой
След чалавечы ў палях замятае?

Весняе неба свідруе жаўрук —
Песня жалосна, тужліва пачута.
Што б ні прыкмеціла вока, бы крук,—
Смутна шугае над краем пакута.

Вам безбаязна ў прыгаршчы ўзяць
Чорнае глебы — так, на разлуку,
Помнячы вербы і ціхую гаць,
Чуючы сэрцам нязводную муку.

* * *

Стаяць бярозы ў мёртвай зоне,
Лістоту скінуўшы на дол.
У дум якіх душа ў палоне
Твая, выгнаннік-навасёл?

Пакут зямных упалі слёзы
У горкім одуме на шлях.
Вартуюць зболена бярозы
Журбу астатнюю ў палях.

Твой боль гарчысты чалавечы
Гудзе, як вецер паміж траў.
Наспех сабраў ты ў хаце рэчы
І толькі сцежкі не сабраў.

Ты сходзіш гоні і памежкі,
Дзе рук мазольных стыне пот.

Ірвуць душу на часткі сцежкі,
Шпурляюць за калючы дрот.

Услед зямлёй, неадарвана,
Абсягай кінутай, наўпрост,
Ім віцца з шызага туману,
Вязаць надзею, памяць, лёс.

Вяртальнай памяці пакута.
Мы ў болю выведаць змаглі:
Жывём аседла і прыкута
Айчыннай думай
Да зямлі.

* * *

Дзе яны, вёскі роднае вёсны?
Вярста,
Абарваная явай драпежнай пагрозы.
Тут гушкаецца ядзерных дзён пустата
На галінах бярозы.

Я жыву — за мяжой успаміну.
Жыву
Днём выгнанніцкай долі, адчаем-расстаннем.
Перапрудзаных векам нябёс сіняву
Працінаю дыханнем.

Як паверыць душой —
Свет адпрэчыць бяду,
Не счакае свайго выпадковага скону?
Хай адзіны за ўсіх
Я, выгнаннік, прыйду
Ценем горкай журбы
Ў палыновую зону.

## ВЯЛІКАЯ ПЕЛЬ

Гушкала таемныя здані аблок,
Гукала званочкам крыніцы здалёк
Мой смех бесклапотны... І ліпеня спель...
Калыска маленства —
Вялікая Пель.

На жоўтым, умытым вадою пяску,
Я цiснуў на ростань каханай руку,
Звінеў каля вуха пагрозлівы чмель.
Сцяжына юнацтва...
Вялікая Пель.

У далях адкрытых чужое зямлі
Ў душы маёй светла, завабна жылі
Чупрыны аблокаў, бярэзніку бель.
Гуканне Радзімы —
Вялікая Пель.

Бядота прыйшла... Заплыла чарнатой.
Гаворыш:
— На ростань, выгнаннік, пастой.
Пагаслі нябёсы. Як чорная мель.
Мой смутак глыбокі —
Вялікая Пель.

Пагаслае неба тваё запалю,
Пунсовай зарою да краю налью,
Прыйду на спатканне з далёкіх зямель
Маленства,
юнацтва,
каханне сустрэць.
На промнях тваіх смертаносных згарэць
Яны не пасмеюць,
Вялікая Пель.

* * *

Я прыйшоў: глухія хаты,
Вокнаў выбітыя шыбы.
Крык драча ў лазе дзяркаты,
І аблок над шляхам глыбы.

Шум ігрушы на падворку
Разліваецца паныла.
Я стаю, вяду гаворку
З тым, што тут адгаманіла,

Што на далечы — былое —
Ажывае галасамі.
Неба тое, сонца тое
Над палямі, над лясамі.

І быльнёг — з мяжы калішняй
Падступіўся да парога.
Хмеліць лета віннай вішняй.
Вішняй выспела трывога.

Горкне доля ў шырах поля.
Хто збярэ насенне тое,
Што пасеяла нядоля?
Поле Вечнасці — пустое.

І няма, няма працягу
Ў нікуды.
Тут мёртва стыне,
Спарадзіўшы думак смагу,
Лёсу чорная пустыня.

* * *

Радасць вярніце маю,
Чорныя ветры атруты!
Вам узамен аддаю
Сум нечуванай пакуты.

Грозна сваволілі вы,
Свету мінаючы мілі,
Лёткае семя жарствы
Крылы шугалі, круцілі.

Вам жа няўцямна было,
Што вы насілі і трэслі.
Колькі й дасюль на сяло
Пылу сусветнага неслі.

Змораным пошугам крыл
Гаслі ў барах прыдняпроўя.
Вамі абронены пыл
Точыць людское здароўе.

Селішча кідае дзед,
Лічыць зямлі кіламетры.
Дзеду кідаюцца ўслед
Толькі драпежныя ветры.

Б'юць навасёлу ў дом
Цераз зямлі небасхілы
І над магільным грудом
Згорнуць атрутныя крылы.

## МАТЫЛЬ

І вось — здзічэлая зямля,
Палын у пары з лебядою.
Трапечуць крыльцы матыля
Над палыноваю бядою.

Адкуль сюды ён заляцеў,
Вястун вясны жывой,
Якая
У кронах пладаносных дрэў
І сёння завязі чакае?

У дымцы шызай б'е крылом,
Раздольна кружачы на ўлонні.
Яго лаўлю.
                    Пустым сялом
Нясу, жывога, на далоні.

Іду. Бязлюдная зямля.
І сонца дыск, як бохан здобны.
І сам душой на матыля
Безабаронна так падобны.

## БАБЧЫНСКІЯ МОГІЛКІ

Пад шатамі акацыі густой
Маіх дзядоў і прадзедаў пастой.
Сыходзілі ссівелыя дзяды
Аржанаю дарогай палявой,
Пажаўшы зерне долі, на клады,
І неба грала барвай агнявой.
Займаўся сонца юнага ўзыход
Над могілкавай цішай сотні год.

І віўся шлях — азмрочаны тугой —
Спалошлівай, няведамай чаргой:
Каму наступным выпадзе сюды?
У трунах стыглі жылы ўсохлых рук.
Студзілі пот прадонніцай клады.
І смуту пеў пад воблакам жаўрук.

А ў вёсачцы збіраліся хаўтуры.
Іх быў настрой гнятлівы і пахмуры.
Вяла журба нязмушанае слова,
Без звону чарку ўзносіла самота.
А на падвор'ях згоркла, палынова
Стаяла доля вёскі —
Адзінота:
«Адтэпала сваё... Адгаравала...
Цябе сяло з жалобай пахавала...»

Было: хвіліну даўкае журбы
Праймаў наскрозь мядзяны зык трубы
І дамавіна ў кветках і вянках
Плыла ў свой шлях самотны на руках.

За ёй услед —
Як чорныя шпакі —
Ішлі з журбой чатыры хлапчукі
І дзве дзяўчынкі...
І ступала скрута.
Яшчэ была няўцямнай іх пакута.
Ды ўжо ў жалобе галаснай сяла
Зямная доля важка іх гняла.

Сустрэўшы іх за вёрстамі-гадамі
Каля магілаў, што ляглі радамі,
Мне выпадзе пачуць адчаю званне,
Як з маткаю — жыцця згасае ранне.

З якой гукне іх смутак стараны?
Шасцёра сірат...
Дзе цяпер яны?

Пасеяў час тут
страту не адну,
Пакажа я цынку шэрую труну.
На веку шкельца зеўрала-блішчэла.
Сцярожка падступаемся, нясмела:
Быў шэрым твар бязвусага салдата.
І сэрца абрывалася, нямела.
Жаночым плачам поўнілася хата.

О, могілкі! На ўскраі той магілы
Зірнуць на свет шырэй —
Далі вы сілы!
Пабачыць з-пад буслінага крыла:
Ён, свет —
Дыханне цемры і святла.
А ў вёсачцы, прыпаўшы да газет,
Твае трывогі мы гарталі,
Свет.

Тае магілы не астыла рана.
Мінецца час,
і ўжо з Афганістана,
Пакутай перакрэсліўшы вясну,
Ў сяло прывезлі чорную труну.
І з ведамым, не раз пачутым болем
На могілкі самотна везлі полем.

Па сэрцы сек смяротнай медзі гук.
Жарства сцякала ўніз з дрыжачых рук.
І калыхаў прытоенае гора
Сталёвы голас лысага маёра,

І халадзелі ўсіх дарэшты душы,
За смерцю ўслед ішлі па Гіндукушы.
А слова, што было цвярдзей метала,
Павечнай славай хлопца прарастала.
Ды дзёрла горла прыкрая нязгода...
Як казыралі іменем народа!

Апеклася слязінаю шчака.
О, могілкі,
Я помню хлапчука,
Яго гарэзны,
звонкі шчабяток.
На помнічак зірну,
І сэрца ток
Наскрозь праніжа і адно падкажа:
Якой вайны жахотнае паклажа
Пагрукала ў гэты наш куток.

І ўжо затым з нязбытнаю тугой
К магіле падступлюся я другой
І, згадліваю памяццю прашыты,
Зірну на спісы прозвішчаў,
На пліты.
А ў полі трактар —
Секане чаргой...
Пад помнікам
у травах спяць яны,
Ахвяры незабытае вайны.
Іх сон калыша
вечнасці крыло.
Панаўкруга сабраўшы іх астанкі,
Хавала тут палескае сяло
Свае, крывёй акропленыя, ранкі,
З сілосных ям павыбраўшы,
З канаў.

Які гарчысты сум
Душу сцінаў!

Тут колькі болю.
Боль — не пахаваць.
Яму,
Як сонцу,
Вечна
Уставаць!..

Тут леглі зноўку свежыя груды.
Праз зоны дрот вяртаюцца сюды
Апошнім шляхам
з росшукам спачыну
Майго сяла выгнаннікі-дзяды.
Ступаю ўслед,
праводжу дамавіну
Пад крыламі чарнобыльскай бяды.

У свеце зла
Ступіў на першапутак
Палескі смутак,
Самы горкі смутак...

Заве зямля,
астыглая наўсцяж,
Вярніся ў горы,
Хоць магілай ляж!
Я смерці шлях зваротны бласлаўлю.
О, могілкі,
Няхай тут мякка спіцца.
Хоць прах агорне цэзіем зямліца,
Дзяды абралі родную зямлю
Бязбоязна —
У вечнасці з ёй зліцца!

* * *

Расцвіла сон-трава — нічыя
На сугрэве прачыстых палян.
Дзе ты, весні салодкі падман,
Дзе спатольная сіла твая?
Гарката...
Шызакрылы туман...

Як вярнуцца?
Душа, адкажы.
Родны кут, росны свет перажыць?
Там у кожным залётным дажджы
Боль і смутак палескі імжыць,
Там душа — на ахвярным крыжы
Просіць неба замглёнае:
жыць!

Там абложа спустошаных дзён,
Кропель смерці спалошлівы звон,
Пасярод трапяткога Жыцця
Там адна з самых жудасных зон —
Зона смутку майго...
Вечны ён...

## ДЗІВАСІЛ

*Светлай памяці*
*Веры Сямёнаўны Палтаран*

Сухавеем пабіты, дажджамі нябёс,
Жоўты цвет на сцяжынах маленства парос,
Адбіраючы вочы таемнай красой,
Мыты самаю чыстай, сцюдзёнай расой,
Жоўты цвет...

Ля бяроз... Ля панылых магіл.
Дзівасіл...
Адзічэлай зямлі дзівасіл...

Так заметна шугаюць былыя гады.
Я па сцежцы знаёмай вярнуўся
туды,
Дзе бусліныя крылы — у высях святла,
Дзе шчаслівая казка трымцела-жыла.
Колькі гора чутно мне з узмахамі крыл!
Дзівасіл...
Палыновай зямлі дзівасіл...

Я знайшоў адзінотны, жаўцяны твой цвет.
Жоўта-жоўта зірнуў гэты ядзерны свет,
Промнем хіжым крануўся ацiхлых палёў,
Ў косы смутных бяроз стужку зыркую ўплёў.
Залачаў ад яго стромы прыпяцкай схіл.
Дзівасіл...
Адзіноты маёй дзівасіл...

Пратрубілі высока ўгары жураўлі,
Сум пакуты маёй павялі, панязлі
У няведамы край, у выгнання смугу.
Я па сцежцы забытай за імі бягу.
Толькі шызы туман...
Толькі лопанне крыл...
Дзівасіл...
Адабранай зямлі дзівасіл...

Знае сэрца: не будзе зваротных дарог.
Азірае пустэчу угневаны бог,
П'е з крыніцы палескай у прыхватках дня
Перагорклай атруты зямной вышыня!
Толькі вецер услед... Толькі ядзерны пыл...
Дзівасіл...
Самай горкай зямлі дзівасіл...

## СОН

Сон нязводны, сон нясходны —
Даўніх вёснаў перазвон.
Ажывае кут мой родны
За аблажай хмурых дзён.

Вось дзяды: на прызбе хаты
Тытуню пусціўшы дым,
Кмецяць вокам, як дзяўчаты
«Граюць целам маладым».

Колькі скурана, пражыта?
Нам — акуркі падабраць.
І гаворка тут — пра жыта
Ды пра жукаўскую рацць.

Вось бабулі... Каля студні
Ў вёдры плёскае вада.
Клопат звычны, клопат будні.
Нетаропкая хада.

На плячах — пажар-хусціна.
Маладзее хмуры дзед.
Ёсць сардэчная прычына
Пазірнуць былому ўслед.

Чуб паправіўшы рукою,
Скажа ў суцемкі сяла:
— Эх, была... Была якою!
Не паверыце — была!

Белапёрыя аблокі,
Белагрудыя сады...
Толькі крокі... Толькі крокі...
Вы куды сышлі, дзяды?

Сон нязводны, сон нясходны —
Лёгкі крок на мураве...
Кут пакінуты, кут родны
Даўняй памяццю жыве.

## СЛЕД

Один я, а мысли всего лишь крылаты,
От них не бывает следов на снегу.

*Расул Гамзатаў*

У снежных замётах улеглася поле,
На ярым марозе красуе зіма.
Сышла, адступілася вёсачкі доля.
І следу на снезе — як глянеш — няма.

За белай аблогай пахмурыя хвоі,
Як смутныя здані, прывідна ўзышлі.
І толькі праменнае сонца жывое
Кранецца дыханнем аснежжа зямлі.

І недзе далёка у шатах дрымотных
Пральецца званочак — і цокат падкоў,
Узбуджаных памяццю дзён беззваротных
На шырах усіх адгарэлых вякоў.

З натужлівым скрыпам палоззе раскроіць
Ціхмянае спячкі пусты далягляд.
Вяртаецца, едзе жыццё зноў жывое
Ссамочаным шляхам да кінутых хат.

Стыхіяй ігрывай маўчанку абудзяць
Залётныя коні... Шугае зіма...
Яна не раз прыйдзе.
Не раз яшчэ будзе.
Ды следу ад шчасця — на снезе няма...

* * *

Гэты шлях, нагамі утаптаны,
Коламі парэзаны,— знямог
У чаканні звычных крокаў ног,
У пяску залётным пахаваны.
Рух сышоў —
Устаў густы быльнёг.

Падалося: гэта мкнуцца шляхам
Продкі нашы,змучаныя жахам,
Выйшаўшы са схованак зямлі.
Страшка бачыць іх...
Узмах за ўзмахам
Чорных рук...
Шапочуць бадылі...

Зеўрыць шлях — халодны і пусты.
Іх вітае з чорнай нематы...

* * *

У небе воблачка плыло,
Зіхотным воблачка было,
І цень — абсягам бег наўпрост,
Кульнуўся цень
праз ценькі мост,
А потым, быццам цьмяны сцяг,
Узвіўся ўверх,
на саркафаг.

Куды кіруешся, бяда?
Адкуль цярушышся?
Жыву!

Даўно мне здрадзіла вада,
Нябёсы льюць на галаву
Атруты накрап...
                    На мяжы
Святла і цемры
                    свет ліпіць...

Маленства чыстыя дажджы,
Сюды мне болей не ступіць.
Палесся горкія дажджы,
Каму ваш сум душой дапіць?!

* * *

Як хвалю разрэжа аеру лязо
У завадзі ціхай на яснасці дня,
Агорне, зжалобіць гаючай слязой
Пачуцці і думы — гаёў цішыня,

Я — прывідам рушу...
Бясконцы бальшак...
Наўзбоч узаўецца атручаны пыл.
І сам не прыкмечу: спынюся няўзнак
Ля родных аселіц...
Ля родных магіл...

І быццам дажджына —
                    ўвап'ецца душа
У смяглую глебу,—
                    адчаем спатоль!
І зрынуць нябёсы з зямнога каўша
Астатняе сонца
І выпаляць боль.

І я — на рэнтгене, прашыты наскрозь,
Паўстану над светам...

і рушу... сыду...
Пачуўшы, як пружыцца хрумсткая вось
На радасць вар'яту...
Яму ж — на бяду...

## ПЯЧНІК

Даўно бяссоннем змучаны пячнік
У гарадской выгнанніцкай далечы.
А збеглы цень —
Угодлівы двайнік —
На вуліцы свае распаліць печы.

Ён думае з маркотай аб былым.
І да астатняй ранішняе зоркі
З'ядае душу вёскі роднай дым,
Як ні каўтай — адно, да болю, горкі.

На вуліцах палескага сяла,
Наўкруг — у Рудакоўскім сельсавеце —
Дзед печы клаў,
каб прыбыло цяпла
Паміж віхур усіх на белым свеце.

Драпежна сцюжа грукае ў акно.
Сляпучы змрок.
Цягучы дух махоркі.
І ўжо нічога ў свеце не відно.
І толькі дым.
Як памяць,
горкі-горкі...

* * *

Як жа вам маецца,
бабулі-суседкі,
Анюта і Вара?
Сэрца займаецца,
што чыгун на агні,
паркім варам.
У хмурых вачах
пагаслі надзей небасхілы.
Завуць па начах
мужоў ледзяныя магілы.
За век парастрачанага
згорклага суму багата.
На могілкі Бабчына
сэрца ступае зацята.
Шлях ваш кароткі
і доўгі, як чорныя ночы.
Там загародкі —
месца абралі аднойчы.
Там, на выгодзе,
род ваш ляжыць-спачывае.
Магіла Валодзі
і поблізу груд Мікалая.
Вечнай бяды
там сіратлівае ранне.
Толькі туды
просіце ў Бога вяртання.

* * *

Агонь языката ўзлятае да рук,
Мы грэем далоні.
Касцёр вечаровы.

А побач, над жытам, спявае жаўрук,
Ён з нашай вясною
Вядзе перазовы.

У водсвеце полымя любай шчака.
І я, затаіўшы ўтрапёна дыханне,
Убачыў,
                як наша ступае каханне
Пад яснасцю небнаю —
Сын і дачка!

* * *

Восень далічыць асін пятакі,
Ветру паведае скрушную думу.
Радасці поле — з левай рукі,
З правай рукі — поле вечнага суму.
Сеялі тут безліч вякоў
Рупныя рукі потную долю.
Песня звінела адна жаўрукоў
Светламу полю і змрочнаму полю.
Колькі ў абсягах зямной даўніны
Сечаў пачулі, крыві паспыталі.
Разам, было, дзірванелі яны,
Горкай травой забыцця зарасталі.
Плужылі іх, выцершы пот,
Чорныя рукі і светлыя душы.
Неба студзіла голас грымот,
Зыркала сонца вокам відушчым.
Як на сугрэве прэлай раллі
Цегла зялёныя парасткі жыта!
Ды пачарнелі разам палі,
Глянулі ядзернай згубай пабіта.

Яму не пакінем скупыя дакоры,
А зорак высокіх агні.
Світальна ў азёры асыплюцца зоры.
Душою ў сусвет зазірні!

* * *

Перакат — рачная водмель,
Хвалі лёгкай ускалых.
Цішыня такая — возьмеш
Цэлы свет душой на слых.

У лугах гусцее вечар,
Бляск зары на гладзі згас.
Праз туман выводзіць Вечнасць
Статкі зорак на папас.

Страпянуўся ліст кляновы,
Казытнуў, угрэты, скронь.
Я чакаў: зардзее новы,
Небам твораны, агонь,

Грайна, весела, шырока
Разальецца, паплыве,
Як абсяг акіне вока,—
Бліснe ў росах на траве.

Светла зрынуўшы утому,
Ступіць месяц, як хадок.
Дню наступнаму зямному
Кіне ценькі павадок.

## ПОЗНЯЕ СОНЦА

1

Восенню хмурай у небнай абложы
Выгляне лапік блакітны і гожы,
Хмары як быццам у ласкавай згодзе
Так парашылі: расплыцца краямі.
І страпянецца зіхота ў прыродзе —
Позняе сонца стаіць перад вамі!

Гэтак і схлыне ў чарнечы імгненна.
Пpыме душа дар нябёс неацэнны
І не патушыць, як чорныя хмары,
Ўчуўшы шуготкія крылы святлыні.
Голасам самай таемнае мары
Светлячы, пройдзе зямлі далячыні.

Тое, што ў лёсе чорнаю скрутай
Змучыла, гасне прад хвіляй пачутай.
Сонцам асвеціцца доля зямная,
Выліта чыста, да самага донца,
Тут, дзе ў нябёсах пахмурых пазнае
Сэрца асенняе, позняе сонца.

2

Гэтак і старасць — сцяжэлая ў руху,
Кіне, бывае, скрозь горкую скруху
Водсвет вачэй таямнічы, блакітны.
Свежасцю яснай усцешліва скажа,
Ўзлётам рукі непрадбачана спрытным:
Ты не спяшаешся, восені сажа!

І на зямным незваротлівым шляху
Выстынуць ценькія водбліскі страху,

## МАЦІ І СЫН

*Паўлу*

У сцены пустыя
прыходзяць сны —
Чорныя зданi...
Сухмарак памяцi:
Хлопчык малы
на пожнях вайны,
Сонца ўзыходзiць, дзень той палячы...
Мёртвыя сцены i морак скразны.

З чорнаю доляй адзiн на адзiн
Ў матчынай хаце пакутуе сын.

Шорах мiж ночы...
То з вечных дарог
Мацi вяртаецца на парог,
Крочыць па зорыстым бальшаку,
Ясна свiтаннем здаля iдзе.
Быццам малому, яму руку
На галаву цёпла кладзе.

«Вось i дайшла я... Важкi мой шлях.
Па камянях. Па здзiчэлых палях.
Пот мой гарачы ногi мне пёк.
Долi туман засцiў мой зрок.
Толькi дайшла я,—
I вочы гарадзь,—
Многа б панесцi, з сабою забраць».

Мацi ўстае.
I ступае яна
На агарод.
Да валуна.

Дзе стаялі густа хаты —
Атрухлелыя падрубы.
Тут магільны прыпах мяты —
Прыпах болю, прыпах згубы.

І на раніцы — тужліва
Рыпне весніца патрохі.
І падасца, як не дзіва,
Абудзіўся сон эпохі.

Дзед сівы, хто веку роўня,
Сад абходзіць у тумане.
Адзінотна зблякла поўня.
І кусты — былога здані.

Пазірае плот пахіла
Ды быльнёг на агародзе...
На кладах старой магіла...
Тут канчаецца стагоддзе.

Прыйдзе гэткая ж суседка.
Каля студні, у гаворцы
(Божы дзень — адзіны сведка)
З глыбі выцягнуць па зорцы.

* * *

Там, дзе памяць балесна лунае,
Супыніся, у вёснах пастой.
Колькі сэрца прызнае, пазнае
На дарозе выгнання крутой.

Ты — хадок. У раз'ятраным часе
Не астыла душа на вятрах.

І быў мой крок стамлёны і цяжкі,
Сляпучымі былі ад гора вочы.
І цэлы свет — асмужаны, сірочы,
І чорныя між жыта васількі.

Вяртаўся я. І чуў: зямля дрыжыць...
Ішоў назад у вёсачку,
каб жыць.
Я зноў іду...
Самотныя клады
Акацыяй пажоўклаю спляліся.
Якія дні паснулі, засталіся
Забытымі пад крыламі бяды?!

І я іду... Вяртаюся... Куды?!

* * *

Абступаюць цябе
Дрэвы,
Павыйшаўшы з пазабытых часаў,
Раскінуўшы лісцвянае голле,
Каб выдыхнуць табе
Кісларод.
Абступаюць цябе
Ветры,
Спалошаныя
Над мацерыкамі
Весты і Осты,
Каб выцерці прахалодай
Пот
На вечнай дарозе.

* * *

У садзе маім
Белая яблыня звонам расы
Пудзіць пчалу,
Сонца —
Прыпарам веснім
Ліецца.
Чутна шпокаюцца пупышкі —
Адорваюць клейкім лістом
Пругкія струны часу.
(Ім спяваць зелена-юна,
Покуль барвяным агнём
Не згарэць
Восенню мглістай.)

У кветках
Завязь бярэцца —
І пацяжэюць галіны
Пад ношаю пладаносу,
Карэнні прагныя смокчуць
Глыбокія сокі
На дзірване стагоддзяў.
(Багата сышло іх
Шчодрым сяйвом,
Каб вось так, ройна,
Уваскрэсіць
Адно імгненне вясны.)

Жук, тля і мошка
Палююць за цветам,
Дажджы кіслотныя
Абіваюць пялёсткі,
Вецер рассейвае наўкруга
Белую мрою вясны.

...Я гляджу ў вочы
маленькай дачкі.
Ці не яна гэта,
сама будучыня,
перада мной?..

* * *

На белай галінцы вярбы — снегіры,
Іх горне да веснічак сцюжа і голад.
Прыкмеціш паглядам, і сэрцу — вясёла,
Нібыта адлегла зіма на двары.
Нібыта ірдзее, струменіць святло
У выдмах гадоў,
Што жыццё намяло.

І маці абудзіцца ў памяці — крок
Натруджаны, ціхі па рыпкіх масніцах.
Узор на акне. Ці ж такое прысніцца?
Усё да драбніц прывячае твой зрок.
Ліецца, праменіць, віруе святло
У выдмах гадоў,
Што жыццё намяло.

А там, за лясною дарогай прастор,
Адкрыты вятрам і глыбокаму снегу.
І голас маленства, як снежны віхор,
І далеч зямлі, падуладная небу.
Усё захавана пад веі крыло
У выдмах гадоў,
Што жыццё намяло.
Святло праліецца з далёкай пары.
Ірдзістае сэрца зімы — снегіры.

2

З прадоннай даўніны,
З бялёсага туману
Павыплывуць чаўны —
Звярэдзяць сэрца рану.

Таемнага агню
Над хвалямі свячэнне.
Плывуць упершыню
Дзяды супроць цячэння

Гадоў, вякоў, эпох,
Вяртаюцца на строму,
Дзе вечнасць іх сцярог
Раскуты голас грому.

Зажурана ў палях
Прымружыў дзень павекі.
Пакутна плача шлях,
Іх шлях:
З варaг у грэкі...

* * *

Галосіць вецер — голасна пяе
На селішчах, парослых быльнягом.
Імкнуць з вятрамі роздумы мае
У гэты край і п'юць бяду нагбом.

Куды ступіць? На шляху нам спаўна
Хапае слёз і смуты векавой.
Крычыць у голлі чорная жаўна,
Крыламі б'е ў сінечы агнявой.

* * *

На дне гісторыі сівой
Багата чый астыне голас.
К
О
Ды зорны крыж КУПАЛА
А
С
Свячэннем век паверне твой.

Шляхамі мары агнявой
Павыйдзе ў Заўтра
наша Сёння.
І душы зведаюць бяссонне
На дне гісторыі сівой...

«Святло бяроз. Яно лілося...» — — — — — — — — 30
Бору — — — — — — — — — — — — — — 30
Роздум уначы — — — — — — — — — — — — 31

## 1980—26.04.1986

«Павыйдзіце з былінных курганоў...» — — — — — — 35
Чаканне сонца — — — — — — — — — — — — 35
Сцяжына — — — — — — — — — — — — — — 36
Удовы — — — — — — — — — — — — — — 37
«Плодная восень — воз па драбіны...» — — — — — 38
«Зямлі маёй сівыя мацяркі...» — — — — — — — — 39
«У хаце двое: бацька й сын...» — — — — — — — 40
Па дровы — — — — — — — — — — — — — 41
«Што ж сыходзіце, вяскоўцы...» — — — — — — — 42
Мароз — — — — — — — — — — — — — — 43
«Як журылі яе, маладуху...» — — — — — — — — 43
Дуб — — — — — — — — — — — — — — — 45
Вясельная балада — — — — — — — — — — — 46
Цётка Анюта — — — — — — — — — — — — 47
Бярозкі — — — — — — — — — — — — — — 48
Двор маленства — — — — — — — — — — — — 49
«Хлапчукі, здарожанымі снамі...» — — — — — — — 50
«З цэлым сусветам — адзін на адзін...» — — — — — 50
«Вайны сусветнай ці астыла рана?..» — — — — — — 51
«Як гэта проста...» — — — — — — — — — — — 52
Дзесяць працэнтаў — — — — — — — — — — — 53
Паэтам — — — — — — — — — — — — — — 54
«Не дайце на згубу сябе і жыццё...» — — — — — — 55
«Раскаты далёкага грому...» — — — — — — — — 56
«Далёкае... забытае... былое...» — — — — — — — 57
Могілкі — — — — — — — — — — — — — — 58
Прыпамін — — — — — — — — — — — — — 59
«Я ў сэрцы прыбярог...» — — — — — — — — — 59

**1986—1990**

«Шкадаваў не раз: далёка...» — — — — — — — — — 93
Балеснае — — — — — — — — — — — — — — 93
Вяртанне — — — — — — — — — — — — — 94
Радаўніца — — — — — — — — — — — — — 95
У бабчыным лесе з Іванам Пташнікавым — — — — 97
«Птушкі...» — — — — — — — — — — — — — — 98
29 жніўня 1986 года — — — — — — — — — — — 99
Журавель над калодзежам — — — — — — — — — 101
Завея — — — — — — — — — — — — — — 102
1986 год — — — — — — — — — — — — — — 103
«Кут мой забыты, безабаронна...» — — — — — — — — 104
Рэха ў свеце — — — — — — — — — — — — — 105
Зямля — — — — — — — — — — — — — — 106
Мой век — — — — — — — — — — — — — — 106
«Вечнасцю неба наліта...» — — — — — — — — — 107
Два ветры — — — — — — — — — — — — — 108
«Палігоны ядзернага веку...» — — — — — — — — 109
Пясочныя гадзіннікі — — — — — — — — — — — 110
Хроніка аднаго вечара — — — — — — — — — — — 111
«Цярусяцца кіслотныя дажджы...» — — — — — — — 112
«У лесе, у нетры сырой глыбіні...» — — — — — — — 113
Снег дзесяці зім — — — — — — — — — — — — 114
Наташы — — — — — — — — — — — — — — 115
«Як лётка дні, змятаючы лісцё...» — — — — — — — 116
Вядро вады — — — — — — — — — — — — — 117
«Пра балота...» — — — — — — — — — — — — 118
«Прычакалі спудлівай пары...» — — — — — — — — 119
«Стамлёная бабка — сукасты кіёк у руцэ...» — — — — 120
Паветра — — — — — — — — — — — — — — 122
На юравіцкай гары — — — — — — — — — — — 123
«Стагоддзямі прыкуты да Зямлі...» — — — — — — — 124
«Ахіні — бела-бела — крылом...» — — — — — — — 124
«Шумёлы лёсу — пад дугой...» — — — — — — — — 125
«Вы слухалі музыку ночы...» — — — — — — — — 126

Памяці сяброў дзяцінства — — — — — — — — — — 160
Памяці Яўгеніі Янішчыц — — — — — — — — — — 161
Дзяды — — — — — — — — — — — — — — — 162
«Яблыня на селішчы забытым...» — — — — — — — — 163
«Высокая восень, у кронах бяроз...» — — — — — — 164
Матчына просьба — — — — — — — — — — — — 164
«Тут з кропам бульба маладая...» — — — — — — — — 166
«Сонечны зайчык, ускоч на далонь...» — — — — — — 166
«Чмяліныя соты ў глыбокай траве...» — — — — — — 167
Дзьмухавец — — — — — — — — — — — — — — 168
«Што ацалела? Могілкі. Грудок...» — — — — — — — 169
Выгнанне — — — — — — — — — — — — — — — 169
«Даруй мне, Слова, што журбой...» — — — — — — — 170
Сябрам — — — — — — — — — — — — — — — 171
Баршчоўка — — — — — — — — — — — — — — 172
Дыпціх чакання — — — — — — — — — — — — — 173
Астатні начлег — — — — — — — — — — — — — 175
Землякам — — — — — — — — — — — — — — — 177
«Пудка шапоча на ветры аер...» — — — — — — — — 178
«Стаяць бярозы ў мёртвай зоне...» — — — — — — — 179
«Дзе яны, вёскі роднае вёсны...» — — — — — — — — 180
Вялікая Пель — — — — — — — — — — — — — — 181
«Я прыйшоў: глухія хаты...» — — — — — — — — — 182
«Радасць вярніце маю...» — — — — — — — — — — 183
Матыль — — — — — — — — — — — — — — — 184
Бабчынскія могілкі — — — — — — — — — — — — 184
«Расцвіла сон-трава — нічыя...» — — — — — — — — 189
Дзівасіл — — — — — — — — — — — — — — — 189
Сон — — — — — — — — — — — — — — — — 191
След — — — — — — — — — — — — — — — — 192
«Гэты шлях, нагамі утаптаны...» — — — — — — — — 193
«У небе воблачка плыло...» — — — — — — — — — 193
«Як хвалю разрэжа аеру лязо...» — — — — — — — — 194
Пячнік — — — — — — — — — — — — — — — 195
«Як жа вам маецца...» — — — — — — — — — — — 196
«Агонь языката ўзлятае да рук...» — — — — — — — 196

**Мятліцкі М.**

**М 99** Чаканне сонца: Вершы.— Мн.: Маст. літ.. 1994.— 222 с.

ISBN 5-340-01375-8.

Прыход у нашу паэзію Міколы Мятліцкага (нар. у 1954 г.) быў адным з самых прыкметных. Сваімі кнігамі «Абеліск у жыце» (1981), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991) ён засведчыў сябе паэтам са сваім адметным голасам, у якім так шмат і сапраўднага болю за нашы незлічоныя беды, і высокага гонару за свой край, за наш народ. Трагедыя роднага Палесся, нялёгкі лёс усяго беларускага народа на шляхах гісторыі, трывога за жыццё чалавечае ў наш такі супярэчлівы час, прага духоўнасці — асноўны пафас гэтае кнігі, куды ўвайшло ўсё лепшае з папярэдніх зборнікаў.

**М** $\frac{4702120202-006}{М\ 302(03)-94}$ **112—94** **ББК 84Бел7**